



# Рэгіянальная газета. Rh.by

тэлетыдзень
27 каналаў ад "Рэгіянальнай газеты"

НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2015

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета".

30 чэрвеня 2017 года №26 (1157)


# Пакуль памяць яшчэ жывая...

## Напярэдадні 73-й гадавіны вызвалення Беларусі ў Пляшчанах на Вілейшчыне вяскоўцы ўстанавілі свой помнік

старонка 2

Фота Аляксандра МАНЦЭВІЧА.



## Пакуль астатнія чакаюць гаспадароў, Тобі ляціць у Бостан на ПМЖ. У Алешчанятах на Валожыншчыне сям'я стварыла прытулак для сабак

старонка 17

## Якія раёны ў рэгіёне лідзіруюць па заробках

старонка 3





## 21 стагоддзе, а ў маладзечанцаў прыбіральня на дварэ і газавы балон на кухні

старонка 18

## Праграма святкавання Дня Незалежнасці ў Вілейцы

ВІЛЕЙКА

**Чатыры дні віляйчан чакае насычаная праграма.**

30 чэрвеня пройдзе фестываль моладзевых субкультур "Энергія маладосці", 1 і 2 ліпеня фэст "Гонару продкаў".

2 ліпеня запланаваныя мерапрыемствы да Дня Незалежнасці Рэспублікі Беларусь і 73-й гадавіны вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў.

### Праграма мерапрыемстваў

### 2 ліпеня

**Плошча Свабоды**

11:00 – урачысты мітынг, ускладанне кветак да помніка воінам-вызваліцелям.

**Парк культуры і адпачынку**

12:00 – адкрыццё скульптуры "Маці з дзецьмі".

14:00 – канцэрт "У гарадскім парку іграе...".

У парку будуць працаваць выставы-продажы, гандлёвыя рады, гульнёвыя і спартыўныя пляцоўкі.

**Цэнтральная плошча**

17:00 – святочны канцэрт навучэнцаў дзіцячых дашкольных устаноў "Усе фарбы лета!".

18:00 – урачыстая частка "Ад вызвалення Вілейкі да незалежнасці краіны!".

20:00 – моладзевы канцэрт "Будучыню будуем Мы!".

21:00 – музычная шоу-праграма "Самы лепшы дзень!".

### 3 ліпеня

**Цэнтральная плошча**

00:00 – акцыя "Спяём гімн разам!". Святочны салют.

00:30 – выступленне беларускага спевака Аляксея Хлястова.

18:00 – 20:00 – святочныя канцэрты "А ў нас у двары..." у мікраёнах Касманаўтаў і Зеніт.

**Паводле начальніка аддзела ідэалагічнай работы, культуры і па справах моладзі Вілейскага райвыканкама.**

## Забегі паўзункоў, канцэрт, але без салюта. Як пройдзе Дзень Незалежнасці ў Маладзечне

МАЛАДЗЕЧНА

Святкаванні да Дня Незалежнасці ў Маладзечне пачнуцца з васьмі раніцы і працягнуцца да апоўначы. Большасць мерапрыемстваў запланаваныя ў парку культуры і адпачынку імя Перамогі.

### Праграма мерапрыемстваў

8:00 – перазвон і святочнае богаслужэнне ў храмах горада.

11:00-11:40 – мітынг да Дня вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў і да Дня Незалежнасці Рэспублікі Беларусь "Слаўся, краіна міру і дабра!" (мемарыяльны комплекс у парку культуры і адпачынку імя Перамогі).

11:40 – велапрабег па месцах баявой славы "Дарогамі памяці" (Маладзечанскі раён).

12:00-14:00 – спартыўнае свята "Табе, родная Беларусь!" (пляцоўка пляжнага валейбола).

**Мерапрыемствы, якія пройдуць у парку культуры і адпачынку імя Перамогі**

12:00-16:00 – тэатралізаваная канцэртная праграма "На прывале".

11:00-16:00 – выстава-продаж вырабаў народных майстроў "Творцы зямлі маладзечанскай".

11:00-16:00 – арт-прастора "Я малюю горад".

11:00-16:00 – дзіцячая забаўляльна-гульнёвая пляцоўка "Гульні нашага дзяцінства".

12:00-16:00 – конкурсная праграма "Забегі паўзункоў".

12:00-16:00 – моднае дзіцячае дэфіле.

12:00-16:00 – зона адпачынку "Пікніковая паляна".

11:00-16:00 – фотазона "Стоп-кадр".

11:00-16:00 – фотасушка "Мой горад – маё жыццё".

**Мерапрыемствы, якія пройдуць у амфітэатры**

21:00 – урачыстае мерапрыемства, прысвечанае Дню горада "Гэты горад – лепшы на зямлі!", канцэрт, прысвечаны Дню Незалежнасці Рэспублікі Беларусь з удзелам творчых калектываў устаноў культуры Маладзечанскага раёна "Песняй славім Беларусь!".

23:00 – грамадска-культурная акцыя "Спяваем гімн разам".

У парку культуры і адпачынку імя Перамогі будуць працаваць гандлёвыя аб'екты, атракцыёны, ахвотныя змогуць пакатацца на катамаранах і лодках.

Ад 30 чэрвеня да 2 ліпеня на пляцоўцы па пляжным валейболе пройдзе кубак Беларусі па пляжным валейболе.

А 1 ліпеня ў 13:00 маладзечанцы могуць назіраць за ўрачыстай рэгістрацыяй шлюбу, якая адбудзецца ў ратондзе парку культуры і адпачынку імя Перамогі.

**Паводле аддзела ідэалагічнай работы, культуры і па справах моладзі Маладзечанскага райвыканкама.**

ТЭМА НУМАРА

# Помнік забытым ахвярам

## У Пляшчанах на Вілейшчыне мясцовыя жыхары адкрылі свой помнік



Фота Аляксандра МАНЦЭВІЧА.

На адкрыццё памятнай шыльды ахвярам Другой сусветнай вайны сабраліся нешматлікія жыхары Пляшчанаў, былыя аднавяскоўцы, дачнікі.

ВІЛЕЙКА

**26 імёнаў нявінных ахвяр Другой сусветнай вайны з'явілася на мемарыяльнай дошцы ў Пляшчанах ля Хаценчыцаў.**




Фота Аляксандра МАНЦЭВІЧА.

Мемарыяльная дошка, якую толькі што адкрылі, устаноўленая на падворку Леаніда Куляша. Справа – Аляксандра Доўнар.

Для жыхароў Заходняй Беларусі вайна пачалася задоўга да чэрвеня 1941-га. Тысячы беларусаў уступілі ў вайну з фашызмам у 1939-м. Невыпадкова на мемарыяльнай дошцы пазначаны менавіта гэтыя перыяд: "1939 – 1945".

### Чым адрозніваецца помнік у Пляшчанах ад большасці помнікаў ахвярам апошняй вайны ў Беларусі?

На гэта адказаў у серыі публікацый, прысвечаных Хаценчыцам, Загаранам, Пляшчанам і іншым навакольным вёскам, у "Рэгіянальнай газеце" ў першай палове гэтага года краязнаўца **Аляксандр Раткевіч**. Сярод 26 імён значная колькасць нявінна забітых былі не ад рук нямецкіх фашыстаў, паліцаяў, а тых, хто называў сябе партызанамі.

Вось што запісаў Аляксандр Раткевіч на падставе расказу ацалелай сведкі тых падзей **Аляксандры Доўнар (Булах)**:

"Расстрэльвалі Жукоўскіх прама ў хаце... Усе сцены і нават столь былі ссечаныя кулямі і заліты крывёй. На падлозе ў крывавых лужынах ляжалі знявечаныя целы: гаспадара Дзмітыя (67 год), гаспадыні Варвары (58), дачкі Серафімы (27), сына Лёні (23), дачкі Марыі (20), унучкі Алімпы (10 год)".

Забойцамі аказаліся байцы партызанскага атрада **Луніна**. Больш за тыдзень нявінныя ахвяры гвалту праляжалі ў сваёй хаце: асабіст **Белік** пагражаў расстрэлам тым, хто пахавае Жукоўскіх.

Аднавясковец **Іван Карповіч** усё ж адважыўся гэта зрабіць. І таксама быў забіты лунінцамі разам са сваёй сям'ёй.

### Што чакала забойцаў пасля вайны

У 1957 годзе вінаватыя ў пляшчанскай трагедыі, камандзір атрада Лунін і асабіст Белік, былі асуджаныя савецкім ваенным трыбуналам за аналагічныя забойствы.

Але доўгі час пляшчанцы не адважваліся гаварыць пра тыя падзеі ўголас. Ды і прыгаворы, па сведчаннях іх, былі занадта мяккія.

### Народная ініцыятыва

Помнік у Пляшчанах нарадзіўся як вынік ініцыятывы знізу.

Ураджэнец пасёлка Партызанскі (раней – Залессе) **Леанід Кулеш** мае ў Пляшчанах лецішча: дом, які ў спадчыну перайшоў яго жонцы **Тамары** (у дзявоцтве Лабэцкая) і яе брату.

Кулеш неаднойчы чуў пра пляшчанскую трагедыю. Лабэцкія блізкія сваякі Карповічам. І Леанід прапусціў усё гэта гора праз сябе:

– Я не мог супакоіцца, пакуль не вырашыў для сябе, што такі помнік у Пляшчанах мусіць быць.

Дапамагла гэтаму і выпадковая сустрэча Куляша з Раткевічам, якога таксама даўно хвалявала тэма забытых ахвяраў вайны:

– Дазвол на афіцыйнае адкрыццё помніка можна чакаць гадамі. Каб прыспешыць час, пакуль жывыя яшчэ апошнія сведкі трагедыі Пляшчанаў, я пагадзіўся ўстанавіць помнік фактычна на сваім падворку.

Пляшчанцы разам з Раткевічам сабралі грошы. Дапамагалі і людзі, якіх нішто не звязвае з гэтай вёскай. Неабыякавыя прадпрымальнікі за невялікія, па сведчанні Аляксандра Раткевіча і Леаніда Куляша, грошы дапамаглі зрабіць дошку, добраўпарадкаваць тэрыторыю.

Помнік адкрылі сёстры **Яўгенія Шостак і Зінаіда Раковіч** (дочкі Івана Карповіча), **Міхаіл Луцкі**, **Аляксандр Булах**, Аляксандра Доўнар – людзі, якія ўсё сваё жыццё нясуць у сэрцах горыч ад страты блізкіх у далёкім 1943-м.

Асвяціў помнік айцец **Аляксандр**.

**Мікола ГАЙДУК.**

# Па заробках у рэгіёне лідзіруюць Астравецкі і Маладзечанскі раёны

Тройка лідараў па заробках у рэгіёне не мяняецца. Зноўку наперадзе Астравецкі раён, і ён значна адрываецца ад іншых. Тут намінальная налічаная сярэднямесячная зарплата за май склала 751 рубель.

На другім месцы – Маладзечанскі раён з сярэднім заробкам у 687,2 рубля.

У тройцы лідараў таксама Смаргонскі раён, дзе налічылі больш за 670 рублёў.

На Вілейшчыне зарплата меншая на 33 рублі і складае 637 рублёў.

У трох астатніх раёнах налічаны заробак амаль аднолькавы. У Валожынскім ён перасягнуў 618 рублёў, на Мядзельшчыне крыху не дацягнуў да 616 рублёў.

На апошнім месцы ў рэгіёне – Ашмянскі раён. Ад Мядзельскага ён адстаў па зарплаце ўсяго на 30 капеек.

Рэальны заробак, які разлічваецца з улікам росту цэн на тавары і паслугі, у маі вырас у параўнанні з красавікам ва ўсіх раёнах. Найбольш – у Астравецкім і Смаргонскім – амаль на шэсць працэнтаў, у Вілейскім – на пяць.




Аддзел інфармацыі паводле галоўных статыстычных упраўленняў Мінскай і Гродзенскай абласцей. Інфаграфіка "РГ".

**Даведка "РГ".** У справаздачнасці ўказаная налічаная зарплата. "На рукі" чалавек атрымае менш з-за выліку падаходнага падатку, адлічэння ў пенсійны фонд і г. д.




Інфаграфіка "РГ", паводле Цэнтра еўрапейскай трансфармацыі.

| КУРСЫ ВАЛЮТ НБ РБ | 22.06 | 29.06 |
|---|---|---|
| | руб. | руб. |
| Долар ЗША | 1,9219 | **1,9343** |
| Еўра | 2,1404 | **2,1987** |
| Злоты, 10 | 5,0585 | **5,1895** |
| Расійскі рубель, 100 | 3,2062 | **3,2485** |
| Грыўня, 100 | 7,3855 | **7,4168** |
| **Курсы ў "Банку БелВЭБ"** | **21.06** | **28.06** |
| Еўра | 2.1100/2.1400 | **2.1500 /2.2100** |
| Долар ЗША | 1.8950/1.9250 | **1.9240/1.9450** |

**ЦЭНЫ НА РЫНКУ** (Маладзечна)

| ПРАДУКТЫ | 21.06 | 28.06 |
|---|---|---|
| | Цана руб. | |
| Кілбаса "Мядовая", 1 кг | 16,85 | **16,85** |
| Сасіскі "Малочныя", 1 кг | 6,93 | **6,90** |
| Кураня-бройлер, 1 кг | 3,25 | **3,25** |
| Свініна (выразка), 1 кг | 8,50 | **8,50** |
| Мінтай свежамар., 1 кг | 3,80 | **3,80** |
| Селядзец, 1 кг | 5,50 | **3,95** |
| Скумбрыя х/в, 1 кг | 13,80 | **12,00** |
| Рыс, 0,9 кг | 1,45 | **0,90** |
| Грэчка, 0,8 кг | 2,25 | **1,80** |
| Яйкі курыныя С1, 1 дз. | 1,70 | **1,80** |
| Алей "Фермер", 1 л | 2,10 | **2,10** |
| Маянэз, 200 г | 0,65 | **0,65** |
| Соус "Мінскі", 0,5 л | 1,60 | **1,60** |
| Кава "Nescafe", 100 г | 5,20 | **5,20** |
| Шпроты, бляшанка 160 г | 1,90 | **1,90** |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 1,20 | **1,20** |
| Часнок, 1 кг | 7,50 | **6,50** |
| Капуста (маладая), 1 кг | 1,80 | **1,70** |
| Морква (маладая), 1 кг | 1,70 | **1,80** |
| Капуста пекінская, 1 кг | 1,69 | **1,70** |
| Лімоны (маладыя), 1 кг | 4,00 | **4,50** |
| Апельсіны, 1 кг | 2,70 | **3,80** |
| Буракі (маладыя), 1 кг | 1,80 | **1,45** |
| Памідоры, 1 кг | 2,50 | **2,70** |
| Агуркі, 1 кг | 1,60 | **1,00** |
| Перац, 1 кг | 6,30 | **6,20** |
| Кавун, 1 кг | 2,00 | **2,00** |
| Вінаград, 1 кг | 6,00 | **5,50** |
| Клубніцы, 1 кг | 3,00 | **3,50** |
| Чарэшні, 1 кг | 4,00 | **3,50** |
| Персікі, 1 кг | 4,50 | **6,50** |
| Нектарыны, 1 кг | 4,85 | **4,60** |
| Абрыкосы, 1 кг | 3,95 | **4,20** |
| Бананы, 1 кг | 2,70 | **2,40** |
| Яблыкі, 1 кг | 1,85 | **2,30** |
| Грушы, 1 кг (Дзюшэс) | 3,50 | **3,90** |
| **СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ** | | |
| Малако, 1,5 л | 1,20 | **1,20** |
| Масла, 1 кг | 11,00 | **11,00** |
| Тварог, 1 кг | 6,00 | **6,00** |
| Бульба (маладая), 1 кг | 1,60 | **1,50** |
| Сала, 1 кг | 11,00 | **11,00** |
| Яйкі, 1 дзясятак | 2,50 | **2,50** |
| Мёд, 0,5 л | 6,50 | **6,50** |

## У рацэ Ілія патануў мужчына

**ВІЛЕЙКА**

24 чэрвеня недалёка ад моста ў Старой Гуце знайшлі тапельца.

Вілейскім выратавальнікам пра гэта паведамілі супрацоўнікі РАУС.

Вядома, што мужчына, 35-гадовы жыхар Ілы, ужо некалькі дзён адсутнічаў дома. Сям'і мужчына не меў.

Па словах выратавальнікаў, тапелец быў апрануты. Таму загінуў ён не ў час купання. Магчыма, спускаўся да вады, паслізнуўся і зваліўся.

Побач на беразе ракі знайшлі яго ровар і гумовыя тапкі.

Аксана ЯРАШОНАК

## Крадзяжы ў Валожыне: цяляты і бытавая тэхніка

**ВАЛОЖЫН**

На ферме ў Адамове скралі чацвёра цялят, а ў вёсцы Дубіна – бытавую тэхніку з дачнага дома.

Пра здарэнні "Рэгіянальнай газеце" расказаў следчы Валожынскага РАСК **Аляксандр Барахоўскі**.

Першы выпадак здарыўся на ферме ў вёсцы Адамова. Там некалькі чалавек скралі чацвёра цялят, іх зарэзалі і прадалі на мяса.

– Цяпер па гэтым факце праводзіцца праверка, – тлумачыць следчы. – Эпізод у Адамове не адзіны ў гэтай справе. Былі крадзяжы з іншых ферм, а таксама з асабістых гаспадарак. Яшчэ хочацца адзначыць, што крадзеж стаў магчымым таму, што вартаўнік фермы не належным чынам выконваў свае абавязкі.

Яшчэ адзін крадзеж адбыўся ў вёсцы Дубіна.

Аляксандр Барахоўскі патлумачыў, што абгаравальнік і іншую тэхніку скраў раней судзімы жыхар Мінска, які прыехаў у Дубіну да сяброў. Ён трапіў у дом праз акно, адтуль вынес рэчы і схаваў іх.

Калі гаспадары даведаліся пра крадзеж, міліцыя знайшла схаваныя рэчы і вярнула іх гаспадарам.

– Асоба злодзея ўстаноўленая. Праводзіцца праверка, – падсумаваў Аляксандр Барахоўскі.

Наталля ТУР.

## Каб пасядзець у інтэрнэце, 19-гадовы віляйчанін скраў чужую машыну

**ВІЛЕЙКА**

Здарэнне адбылося ў прамежку часу ад красавіка да 17 чэрвеня. Але 70-гадовая гаспадыня "Хонды-Цывік" паведаміла ў міліцыю, што нехта браў яе машыну, толькі 17 чэрвеня.

Яна жыве ў Мінску, але мае дом у Вілейцы, за якім прасіла прыглядаць суседзяў. У двары стаяла машына.

Гаспадыня вярнулася ў Вілейку 17 чэрвеня, убачыла, што машына не так стаіць, шыба разбітая. Звярнулася ў міліцыю.

Аказалася, што машыну браў 19-гадовы віляйчанін. Ён убачыў аўто ў двары. Праверыў, ці ёсць нехта ў доме. Калі нікога не аказалася – разбіў шыбу ў акне, залез у дом. Там адшукаў ключы.

– Юнак завёў машыну і паехаў на ёй на суседнюю вуліцу, спыніўся і са свайго мабільнага тэлефона каля паўгадзіны сядзеў у інтэрнэце, – расказаў следчы Вілейскага раённага аддзела Следчага камітэта **Яўген Юшкевіч**. – Затым вярнуў аўто на месца і пайшоў да сябра. Пасля дзейнічаў па ранейшым сцэнарыі: узяў машыну, паехаў на суседнюю вуліцу, пасядзеў у інтэрнэце. Пасля гэтага паставіў яе ў двары, ключы паклаў у дом.

На наступны дзень пасля звароту жанчыны міліцыя адшукала вінаватага. Ён затрыманы.

Узбудзілі крымінальную справу за "Угон транспартнага сродку альбо маламернага воднага судна". Артыкул прадугледжвае штраф альбо выпраўленчыя работы на тэрмін да двух гадоў, альбо арышт, альбо абмежаванне свабоды на тэрмін да пяці гадоў, альбо пазбаўленне волі на той жа тэрмін.

Галіна СУДНІКОВІЧ.

## На Вілейскім вадасховішчы хвалі перакулілі лодку з рыбакамі

27 чэрвеня ў 15:40 супрацоўнікі РАУС паведамілі ў вілейскую выратавальную станцыю пра тое, што недалёка ад Рабуні на вадасховішчы перакулілася лодка з трыма рыбакамі.

– Прыкладна праз 15 хвілін мы былі на месцы, – расказаў начальнік выратавальнай станцыі **Ягор Роўда**. – Рыбакоў і лодку выратавалі і перадалі супрацоўнікам раённага аддзела МНС.

Па словах Ягора Роўды, лодку перакулілі моцныя хвалі. У той дзень было штармавое папярэджанне пра вецер 20 метраў за секунду. Хвалі былі каля аднаго метра ў вышыню.

Аксана ЯРАШОНАК.

# –"Слухай, ты скрадзі і адмажашся ад ЛПП", – параіў валожынцу "сябар"

**ВАЛОЖЫН**

**Дзіўная і недарэчная гісторыя адбылася днямі на Валожыншчыне.**


Фота sputnik.by

Каб не трапіць у ЛПП, мужчына скраў касу, тачку і алюміній.

Жыве ў вёсцы Гілякі, што ў Івянецкім сельсавеце, 54-гадовы мужчына.

І ў таго мужчыны праблемы з алкаголем. Стаіць ён на ўліку, але рэжым парушае рэгулярна.

І вось участковы сабраў на яго дастаткова матэрыялу, каб адправіць на прымусовае лячэнне ў лячэбна-працоўны прафілакторый.

Вось тут і пачынаецца самае цікавае.

За адным з чарговых застолляў прызнаўся наш герой свайму сябру, што не хоча ён ехаць на лячэнне. А той яму вазьмі ды і парай:

– А ты скрадзі што. Цябе асудзяць за крадзеж, пасадзяць на два гады, а тым часам тэрмін ЛПП пройдзе.

Сказана-зроблена!

У той жа вечар працаўнік ЛПП пранікае ў хлеў да суседа і выносіць адтуль алюміній, касу і тачку.

Металічныя рэчы здаў, грошы прапіў.

А назаўтра сам прыйшоў у міліцыю і сказаў:

– Я скраў, судзіце мяне.

Але не ўлічыў, што за дробны крадзеж на два гады не пасадзяць.

Вось і атрымалася, што і ў лячэбна-працоўны прафілакторый мужчына абавязаны будзе паехаць. Ды яшчэ з судзімасцю за крадзеж.

Пра гэта "Рэгіянальнай газеце" расказаў старшы следчы Валожынскага РАСК **Сяргей Лапцік**.

Наталля ТУР.

## Мядзяльчанін перакуліўся на "Аўдзі"

**МЯДЗЕЛ**

Здарэнне адбылося 27 чэрвеня прыблізна ў 18:20 на трэцім кіламетры аўтадарогі Баяры–Крывічы–Касцяневічы ў Мядзельскім раёне. На аўтамабілі "Аўдзі А-4" ехаў 62-гадовы кіроўца. Жыхар Мядзела не справіўся з кіраваннем, машына з'ехала ў кювет і перакулілася.

У выніку кіроўца шпіталізаваны з закрытай чэрапна-мазгавой траўмай, страсеннем мазгоў, траўматычным разрывам барабаннай перапонкі.

Мядзяльчанін не меў права кіравання транспартным сродкам, дадае ДАІ Мінскай вобласці.

Аддзел інфармацыі.

## "Аўдзі" наехала на юнага раварыста

**ВАЛОЖЫН**

Адбылося гэта ў вёсцы Брылькі Валожынскага раёна. Пасля 16 гадзін 24 чэрвеня 30-гадовы кіроўца ехаў на аўтамабілі "Аўдзі-80". Аўтамабіль наехаў на юнага раварыста, які раптоўна выехаў з двара жылога дома. У выніку шасцігадовы хлопчык шпіталізаваны з закрытай чэрапна-мазгавой траўмай сярэдняй ступені, ударам галаўнога мозга сярэдняй ступені цяжкасці, выцятай ранай ілба, закрытым пераломам ключыцы.

Дзяржаўтаінспекцыя Мінскай вобласці настойліва рэкамендуе ўдзельнікам дарожнага руху выконваць патрабаванні правілаў дарожнага руху і нагадвае, што ад 22 да 26 чэрвеня на тэрыторыі Міншчыны праводзіцца рэспубліканская прафілактычная акцыя "Колаў менш – небяспекі больш!".

Паводле ДАІ Мінскай вобласці.

## Справу падлеткаў перадалі ў суд

**МАЛАДЗЕЧНА**

22 чэрвеня завяршалі справу падлеткаў, якія ў Маладзечне пагражалі выкінуць з акна свайго аднагрупніка.

Здарэнне адбылося 11 красавіка ў вучэбным корпусе аднаго з каледжаў горада.

Па словах старшага следчага маладзечанскага раённага аддзела Следчага камітэта **Юрыя Багушэвіча**, двое 17-гадовых падлеткаў вырашылі быццам пажартаваць.

У час перапынку паміж заняткамі яны пачалі чапляцца да 16-гадовага аднагрупніка, ураджэнца В'етнама, пагражалі выкінуць яго з акна.

Потым схапілі, высунулі ў акно з другога паверха і так нейкі час трымалі ўніз галавой. Хлопец супраціўляўся, вырываўся. Ад гэтага на целе з'явіліся сінякі.

Намер крыўдзіцелі не спраўдзілі. А свае паводзіны патлумачылі жаданнем пажартаваць.

– Абодва хлопцы стаяць на ўліку і неаднаразова прыцягваліся да адміністрацыйнай адказнасці. Найбольш распаўсюджаныя правапарушэнні ў іх біяграфіі – дробнае хуліганства і распіванне спіртнога ў грамадскім месцы, – распавёў Юры Багушэвіч.

## Скраў за тыдзень тры аўтамабілі, грошы, фотаапарат і ровар

**МАЛАДЗЕЧНА, ВІЛЕЙКА**

20-гадовага жыхара Вілейшчыны затрымалі і ўзялі пад варту ў Маладзечне.

Малады чалавек ужо адбываў пакаранне за крадзеж. Летась у жніўні ён выйшаў з турмы.

За тыдзень ад 13 да 20 чэрвеня ён угнаў тры аўтамабілі, два – з вёсак Маладзечанскага раёна, адзін – з горада, ровар, а таксама забраў грошы і фотаапарат з іншага аўтамабіля.

– Цікава, што малады чалавек скраў ровар, пакатаўся на ім па горадзе. Потым убачыў аўтамабіль, тут жа кінуў ровар і далей паехаў ужо на чужой машыне, – расказаў старшы следчы маладзечанскага раённага аддзела Следчага камітэта Юры Багушэвіч.

Угнаныя аўтамабілі хутка знайшлі. Адзін быў у Смаргоні, другі – у Вілейцы пасля ДТЗ, трэці – у вёсцы Лебедзева таксама пасля аварыі.

## На ферме ў Селішчах скралі цялят

**ВІЛЕЙКА**

Пра крадзеж 23 чэрвеня ў вілейскі РАУС паведаміў дырэктар калгаса.

Начальнік Следчага камітэта **Яўген Мягкоў** расказаў, што ноччу 23 чэрвеня з малочнатаварнай фермы ў вёсцы Селішчы на Вілейшчыне скралі двое цялят. Іх агульная вага – 150 кілаграмаў, кошт – 311 рублёў.

Супрацоўнікі міліцыі высветлілі, што злачынства здзейснілі мужчыны 49, 31 і 29 гадоў. Двое з іх – жыхары Маладзечна, адзін, раней судзімы за крадзеж, жыве ў Мароськах. Мужчына з Мароськаў і 49-гадовы маладзечанец нідзе не працуюць.

– Адзін з іх ведаў, што на ферму можна было прайсці без перашкод. Пра гэта ён расказаў сваім знаёмым, – кажа Яўген Мягкоў.

Па яго словах, мужчыны адразу зарэзалі цялят. А іх мяса прадалі на рынку ў Ждановічах.

Усіх трох затрымалі.

Аксана ЯРАШОНАК.

МІЖНАРОДНАЕ СУПРАЦОЎНІЦТВА: БЕЛАРУСЬ - ГЕРМАНІЯ

# Традыцыйная культура немцаў – гэта песня пра Кацюшу

МАЛАДЗЕЧНА

Уже чацверты год запар мястэчка Гарадок збірае людзей розных нацыянальнасцяў, каб разам ушанаваць памяць загінулых у гады вайны жыхароў, каб успомніць, што калісьці Гарадок жыў сваім жыццём, якое біла тут, быццам крыніца.

Беларусы, украінцы, рускія, яўрэі, палякі, немцы і нават амерыканцы завіталі сёлета на форум, які прысвяцілі традыцыйным культурам гэтых народаў.

Традыцыйная культура ўкраінцаў – гэта песня. Не толькі тая, якую спяваюць, а ўвогуле: спатыкач, бандура, кобза… Што ні слова, то песня. **Сяргей Каўн** і **Леанід Лысакабылка** распавядалі пра традыцыйныя стравы і напоі, пра абрады і музычныя інструменты Украіны.

Канешне ж, не абышлося без вершаў украінскіх аўтараў і ўкраінскіх народных песень.

Калі гаварыць пра традыцыйную рускую культуру, то тут трэба было распавядаць пра кожны народ, які насяляе Расію, пра Сібір і Каўказ, пра кожны гадзінны пояс.

Таму выкладчык БДУ **Юры Блашко** распавёў пра прасторы Расіі і пра загадкавую рускую душу.

Цікавым быў той факт, што, напрыклад, жыхары Іркуцка даведаліся пра смерць Кацярыны Другой толькі на 34 дзень. Пры гэтым ганец, які павінны быў даставіць такую навіну, скакаў або ехаў з хуткасцю 180 кіламетраў у суткі.

А вось калі з'явілася чыгунка, навіны ў аддаленыя куточкі Расіі сталі дастаўляцца хутчэй (канешне, тады, калі ў гэтыя мясціны праклалі рэйкі).

А вось з пускам першай чыгункі Санкт-Пецярбург – Масква звязаныя некалькі кур'ёзаў. Ці праўда гэта, ці анекдот – невядома.

Але расказваюць, што першы цягнік не змог падняцца на Вараб'ёвы горы ў Маскве. І зусім не таму, што гара тая высокая, а таму, што цягнік сустракалі, да гэтага шчыра рыхтаваліся, каб было ўсё на вышэйшым узроўні… і пафарбавалі рэйкі. Цягнік забуксаваў і да канцавога прыпынку так і не прыбыў.

Ці яшчэ. Калі ад перона збіраўся адыходзіць цягнік, адна жанчына бегала туды-сюды і крычала: "Ён не кранецца! Ён не кранецца!" Калі ж цягнік адышоў ад перона, жанчыну гэта не супакоіла. Яна зноў бегала туды-сюды і крычала: "Ён жа не спыніцца! Ён жа не спыніцца!"

Хто зразумее загадкавую рускую душу?

**Беатрыс Пэцольд** была згодная з расіянамі ў тым сэнсе, што апісаць агулам традыцыйную культуру Германіі не атрымаецца, бо Саксонія ці Баварыя – гэта зусім іншыя не толькі культуры, але і нават мова.

– Мой сын жыве ў Баварыі, – кажа Беатрыс, якая жыве ў Дрэздэне, – і я часам не разумею, што ён кажа. Настолькі адрозніваюцца дыялекты!

Беатрыс Пэцольд нарадзілася ў Дрэздэне, тады гэта была тэрыторыя ГДР, і ёй бабуля спявала папулярную тады "нямецкую" калыханку: "Расцветали яблони и груши".



Фота Наталлі ТУР.

Беатрыс Пэцольд расказала пра традыцыйную культуру немцаў.

Нямецкая традыцыйная культура, кажа Беатрыс, гэта не культура краіны, гэта культура носьбітаў нямецкай мовы.

І прыгадала славутыя імёны людзей, якія географічна не жылі ў сучаснай Германіі, але, бясспрэчна, з'яўляюцца яе часткай.

Гэта Вольфганг Амадэй Моцарт, Альберт Эйнштэйн, Карл Маркс, іншыя.

Беатрыс сказала, што, на жаль, у многіх Германія асацыюецца толькі з фестывалем піва "Актобарфэст", куды штогод з'язджаецца каля пяці мільёнаў чалавек.

А між тым, Германія – гэта казкі, а таксама слоўнік братоў Грым. Гэта музыка Баха і Бетховена. Гэта цэлая плеяда філосафаў: Кант, Ніцшэ, Гегель. Гэта, канешне ж, Гётэ.

Асобная тэма форуму – гэта нацыянальная кухня народаў.

Але якая размова пра кухню без дэгустацыі? Варэнікамі, салам, рознымі пірагамі змаглі пачаставацца госці форуму пасля ўрачыстай часткі.

Чыя кухня смачнейшая? Пра гэта, відаць, трэба будзе запытацца на наступны год, на пятым юбілейным форуме "Сяброў Гарадка".

**Наталля ТУР.**





# Як жыве сям'я, у якой і муж, і жонка рыбакі

МАЛАДЗЕЧНА

**Захапленне рыбалкай часам параўноўваюць з хваробай. Адкуль яна бярэцца ў людзей?**

Хто лепшыя рыбакі – мужчыны альбо жанчыны? І ці мірацца паміж сабой муж і жонка з аднолькавымі захапленнямі. Мы распыталіся ў **Яўгена і Ірыны Крукоў**.

– Я вырасла каля дзвюх рэчак – гэта Альшанка і Бярэзіна, што на Валожыншчыне, – расказвае Ірына. – Бацька часта рыбачыў, браў і мяне з сястрой. У нашай сям'і не было раздзялення працы, маўляў, гэта работа жаночая, а гэта мужчынская. Рабіць, можа, і не спатрэбіцца, але ўмець усё трэба. Маці расказвала, што да меліярацыі рыбу лавілі кошыкам, так многа было. Я з самага дзяцінства была ўпэўненая: не пайсці на рэчку і не парыбачыць – гэта ж грэх.

Яўген рыбачыў таксама з дзяцінства, хадзіў на сажалку недалёка ад вёскі Мянюткі са старэйшым братам. Але пасапраўднаму захапіўся гэтым заняткам, калі злавіў некалькі шчупакоў.

– Шчупак – вельмі хітрая і ўпартая рыбіна, – расказвае мужчына. – Калі цягнеш яе, прачынаецца азарт: ты яе да сябе, а рыбіна не паддаецца, упіраецца, стараецца абхітрыць. Таму, калі трапляецца на кручок, пачынаем дзейнічаць разам з жонкай: я цягну, жонка стаіць з сачком, каб адразу перахапіць рыбіну. Аднак не раз было, што шчупак зрываўся. Тады пераглядваемся паміж сабой, шукаем вачамі, хто вінаваты.

### Перад рыбалкай не голіцца

Да таго, калі ехаць на рыбалку, Яўген прыслухоўваецца да Ірыны. Як яна адзначае, у яе ёсць своеасаблівае прадчуванне добрага ўлову.

– Як з'яўляецца прадчуванне, угаворваю мужа збірацца, – дзеліцца Ірына. – Аднак выбіраемся не часта, раз у два-тры тыдні, калі ў бабулі атрымоўваецца пасядзець з дзецьмі.

Прадчуванне дапамагае Ірыне мець і найлепшы ўлоў. У маі злавілі двух судакоў, двух шчупакоў і пяць акунёў. У Яўгена быў толькі адзін акунь.

Напярэдадні рыбалкі ў мужчыны традыцыя – не галіцца.

– Гэта звычка яшчэ са студэнцкага жыцця, – жартуе Яўген. – Нейк перад экзаменам пагаліўся – і не здаў. З таго часу перад значнымі падзеямі не раблю гэтага, рыбалку таксама адношу да знакавай падзеі. Веру, тады ўсё атрымаецца.

Многія жанчыны лічаць, што рыба ў сне – верная прыкмета цяжарнасці.

– Калі верыць гэтым забабонам, то я ўсё жыццё цяжарная, – жартуе Ірына. – Бо часта бачу ў сне рыбу: то яна з рэчкі выскоквае, то плавае ў вадзе. Шчыра кажучы, і не высвятляла, да чаго гэтыя сны.

### Зімой не рыбачаць

На зімнюю рыбалку сям'я не ездзіць, больш падабаецца рыбачыць у цёплае надвор'е. Халадам на рыбалку выбіраўся толькі Яўген, але не спадабалася: замерзлі рукі, лёска заблыталася – задавальнення не атрымаў.

– Зіма ў нашай сям'і – гэта час падрыхтоўкі да летняга рыбалоўнага сезона, – адзначае мужчына. – Сёлета зімой мадэрнізаваў лодку, зрабіў якар, мяккія сядзенні – усё, каб было зручна рыбачыць.

Сям'я раіць заняцца рыбалкай тым, у каго не хапае цярпення. Гэты занятак дапамагае выпрацаваць такую якасць.

– Бывала, сядзіш усю ноч, а рыба так і не клюе, – зазначае жанчына. – Тады вяртаешся дадому без улову. Затое ўжо адпачыўшы, пасвяжэўшы, з новымі сіламі.

Муж і жонка ўпэўненыя, што дзяцей да рыбалкі трэба прывучаць з дзяцінства – тое, што закладзеш у гэту пару, дасць свае плады ў далейшым.

У сям'і двое дзяцей, старэйшага сына бацька ўжо браў на рыбалку. Як змог самастойна выцягнуць рыбіну, захапіўся.

– Аднойчы дзядуля паабяцаў яму, што на наступны дзень пойдуць разам рыбачыць, – з усмешкай расказваюць Ірына і Яўген. – Ён навёў гадзіннік на тры ночы і пачаў збірацца. Перапалохаў бабулю з дзядулем – тыя думалі, што нешта здарылася. Сын памятаў, што ездзіў з бацькам рана на рыбалку – на світанні рыба лепш клюе. А дзядуля і не думаў у такую рань падымацца.

Ірыне і Яўгену падабаецца, што ў рыбакоў вельмі спрыяльныя, добразычлівыя адносіны паміж сабой. Спытайся, і рыбакі раскажуць і пра ўлоў, і пра месцы, у якіх клюе, дадуць параду маладому, недасведчанаму рыбаку і, канешне ж, пажадаюць перад пачаткам ні хваста, ні лускі – каб усё атрымалася.

**Галіна СУДНІКОВІЧ.**




# Куплю Прадам Зраблю

## Дзе падаць аб'яву

| | |
|---|---|
| **МАЛАДЗЕЧНА** | Вялікі Гасцінец, 143, офіс 518. Тэл. (80176) **537804, 8 (029) 6768420.** |
| **АСТРАВЕЦ** | вул. Ленінская, 5, аддзяленне сувязі №1. Тэл. (801591) **21140.** |
| **АШМЯНЫ** | вул. Савецкая, 97, пошта. Тэл. (801593) **22211.** |
| **ВАЛОЖЫН** | вул. 1 Мая, 3, пошта. Тэл. (801772) **55542, 55237.** |
| **ВІЛЕЙКА** | вул. Партызанская, 44, магазін "Парус". Тэл. (801771) **20083, 20103.** |
| **ВІЛЕЙКА** | вул. 17 Верасня, 30, пошта. Тэл. (801771) **55233, 55539.** |
| **СМАРГОНЬ** | вул. Танкістаў, 8 (насупраць ваенкамата). Тэл. (801592) **33077.** |
| **МЯДЗЕЛ** | вул. 17 Верасня, 2. Тэл. (801797) **55266, 55765.** |

* *Аб'явы, пазначаныя зорачкай, змешчаныя ў Інтэрнэце на сайце* **Rh.by**

# ВІНШАВАНКА

**З ЮБІЛЕЕМ!**
**Ігару Пятровічу МАРОЗУ з Вілейкі**



Вы ведаеце, хто ў свеце самы спартыўны, самы таленавіты, самы адказны і самы прынцыповы тэхнічны рэдактар? Гэта, безумоўна, наш Ігар Пятровіч Мароз!

Шчыра кажучы, ён і так кожны дзень чуе ад нас словы павагі, удзячнасці і адабрэння. Таму ў яго 60-гадовы юбілей нам хочацца проста сказаць яму, што мы яго любім і цэнім!

І ні на якую пенсію мы яго не адпусцім яшчэ доўга. Няма там чаго рабіць такому маладому і энергічнаму чалавеку.

Ігар Пятровіч – мы без вас нікуды! А яшчэ жадаем вам, каб не падводзіла здароўе, каб заўсёды быў добры настрой, каб радасць і шчасце ішлі з вамі побач.

Цалуем!

**Ваш калектыў "РГ".**



# ТРАНСПАРТ

### ПРАДАЕЦЦА

- ВАЗ-21063, 1989 г.в., бэжавы колер. Т. (8-029) 1798400.*
- Гольф-7, 2014 г., Опель-Зафіра, 2014 г., торг. Т. (8-029) 3063523.*
- ГАЗ-2410, 1989 г.в., у добрым стане. Т. МТС (8-029) 5752803.
- ДЭУ-Нэксі, 2005 г.в., страхоўка, тэхагляд. Т. Вэлком (8-029) 1262762.
- Опель-Вектра, 1993 г.в., 1,8Б, 2800 руб. Т. (8-029) 2567841.
- Пежо-5008, 2013 г.в., з Германіі. Т. (8-029) 6372633.*
- Рэно-19, 1,7 бензін, машына ў добрым стане альбо мяняю на Пежо 306 з маёй даплатай. Т. МТС (8-029) 5039360, (8-01771) 34305 Віктаравіч.*
- Сеат-Альхамбра, 1999 г.в., 1,9 ТДІ. Валожын. Т. Вэлком (8-044) 7700247.
- ФВ-Пасат Б6, 2005 г.в.,2,0Б, сядан чорны. Т. (8-029) 3510064.
- **АЎТАШКЛО. ПРОДАЖ, УСТАНОЎКА. ЯКАСНА, ПРАФЕСІЙНА. ГАРАНТЫЯ.** Наяўны, безнаяўны разлік. ЧСУП "АртАлексСэрвіс" УНП 690639270. Т. (8-029) 7766637, (8-044) 7766637. *
- Запчасткі да БМВ 525, 1997 г.в. Т. (8-044) 7387127.*
- Запчасткі да Мазды 626, 2,0Д, 1994 г.в. Т. (8-044) 7387127.*
- Запчасткі да Форда-Эскорт, 1994 г.в. Т. (8-029) 7792477.*
- **ЗАПЧАСТКІ ПА КУЗАВЕ АЎТО;** крылы, капоты, парогі, рам. устаўкі арак, глушыцелі, бамперы, падкрылкі і шмат іншага. ІП Шыцік П.Л. УНП 191477481. Т. (8-029) 7640884, 707810.*

### КУПЛЮ

- **АЎТО Ў ЛЮБЫМ СТАНЕ, ДОРАГА! Т. (8-029) 6170681.***
- Аўто для сябе. Тэрмінова. Т. (8-029) 6412706.*
- Аўто ў любым стане. Дорага. Т. МТС (8-029) 7076969.*
- Аўто, можна з праблемамі. Прыеду сам. Т. МТС (8-029) 7773083.*
- Любое аўто на ходу. Грошы адразу. Т. (8-029) 7918210.*
- Аўто. Можна аварыйнае. Т.(8-029) 5677052.*

### ПАСЛУГІ

- **МІНІ-ЭКСКАВАТАРА**, усе віды земляных работ. ІП Матусевіч Ю І. УНП 691397070. Т. (8-029) 6654868, (8-0176) 778888.*
- Міні-экскаватар, міні-пагрузчык, траншэекапальнік, вібраплітa 500 кг, самазвал 20 т. ІП Карповіч В.У. УНП 692013268. Т. (8-029) 9666645.*
- Паслугі міні-экскаватара. Усе віды земляных работ (газ, вада, фундаменты). ІП Жак А.А. УНП 691515498. Т. (8-044) 5522028.*
- Паслугі міні-экскаватара. Усе віды земляных работ. ІП Кроер А.Л. УНП 691397772. Т. (8-029) 6926052.*
- Паслугі экскаватара ЕК-14 (0,85 куб.м), экскаватара-пагрузчыка Фіят-Хітачы і франтальнага пагрузчыка ТО-18Б. Дастаўка уласным тралам. ІП Вабішчэвіч І.В. УНП 690696017. Т. Вэлком (8-029) 3713335, МТС (8-033) 3133535.*
- Паслугі экскаватара ЮМЗ. Усе віды земляных работ. Самазвал 10 т. ІП Крэнць С.М. УНП 692015814. Т. (8-044) 5543967, (8-029) 8762233.*

# НЕРУХОМАСЦЬ

### ПРАДАЕЦЦА

- 1-пакаёвая кватэра ў Маладзечне. Т. (8-029) 6372633.*
- 2-пакаёвая кватэра на вул. ... 2-павярховы дом у Вілейцы па вул. Юбілейнай,11. Магчымы абмен на 1-пакаёвую кватэру ў Мінску. Т. (8-029) 7039162.*
- 2-павярховы дом у Вілейцы. Т. 5-61-70, (8-029) 9041668.
- 2-павярховы жылы катэдж у цэнтры Вілейкі, усе камунікацыі. Т. (8-029) 6251817. Мікалай.*
- 3-пакаёвая кватэра з усімі выгодамі, з рамонтам, лоджыя 6 м. Нядорага. Вілейка, вул. Кастрычніцкая, д. 54. Т. (8-033) 3839112.*
- 3-пакаёвая кватэра ў а.г. Любань Вілейскага р-на. Т. (8-033) 6362026.*
- 3-пакаёвая кватэра ў Астраўцы. Т. (8-029) 3492726.
- 3-пакаёвая кватэра ў Вілейцы, "Зеніт", еўрарамонт. Нядорага. Тэрмінова. Т. (8-029) 1558499.*
- 3-пакаёвая кватэра ў Вілейцы, 108 кв. м. Т. (8-029) 6795426.*
- 3-пакаёвая кватэра, 4 паверх, без рамонту, у Вілейцы, вул. Талстога, 51. Тэрмінова! Т. (8-033) 6170104.*
- 5-пакаёвы сучасны катэдж з лазняй 2011 г. у Мядзеле, 168 000 руб. Т. (8-029) 6414245. Валянцін.*
- Гараж у ГК №1. Т. (8-029) 2505060, (8-029) 6262756.*
- Гараж у Смаргоні, з/сетка. Т. (8-01592) 26531, (8-029) 7875173.
- Дача, 49 км ад Маладзечна, в. Заазер'е, 91,5 км ад вёскі Талуць) на беразе возера, побач лес, рэчка. Цудоўнае месца для адпачынку або адкрыцця аграсядзібы. Гатоўнасць 80%. Т. (8-029) 6631960.
- Дом драўляны (патрабуецца рамонт), 2 км ад Вілейкі, в.Клыні. Недалёка вадасховішча. Ёсць калодзеж. 25 сотак. 5 000 рублёў, торг. Т. МТС (8-029) 5642606.*
- Дом драўляны ў Вілейцы з участкам 28 сотак, 53 000 руб. Т. (8-033) 6613837.
- Дом драўляны ў добрым стане, нарачанскі напрамак, 8 км ад Вілейкі, 16 сотак, калодзеж, склеп. Т. (8-044) 7587148.*
- Дом жылы ў Маладзечне, цэнтр, газ, вадаправод. Т. Вэлком (8-029) 6691789.*
- Дом нежылы з участкам у 11,5 соткі ў вёсцы Лебедзева, вул. Савецкая, д. 61. Т. (8-029) 7091821.*
- Дом у а.г. Лебедзева, 36 кв. м, участак 0,25 га, прыватызаваны. Т. (8-029) 8737656.*
- Дом у в. Гарадзілавічы Вілейскага раёна, 5 км ад трасы Мінск-Мядзел. Т. (8-029) 7687670.
- Дом у в. Запур'е Валожынскага раёна, нядорага. Т. (8-044) 4562653.
- Дом у в. Міндзяны, д.34. Агульная плошча 126 кв.м.Т. (8-01591) 38017, (8-029) 1711246.
- Дом у в.Порса, участак 30 сотак. Т. (8-029) 1214671.*
- Дом у вёсцы Кардон Вілейскага раёна, калодзеж, участак 14 сотак, лес, рэчка побач.Т. (8-029) 2928728.
- Дом у Вілейскім раёне, в. Засценкі. Т. (8-033) 3513656.
- Дом у Вілейцы, дыхтоўны, 60 000 руб. Торг. Т. (8-029) 6147015.*
- Дом цагляны з усімі камунікацыямі ў Мядзеле, вул. Вяршылы, у 500 метрах ад возера. Т. (8-029) 2760904.*
- Зямельны ўчастак 0,25 га ў п.Свір. Возера ў 50 м, праз дарогу. На ўчастку электрычнасць, фундамент, магчымасць падключэння да газу. Гатовы праект. Без пасрэднікаў. Т. (8-044) 7571949.*
- Павільён гандлёвы. Т. (8-029) 6654868.*
- Участак з домам у в. Насілава, 25 сотак. Т. МТС (8-029) 8143388.*

### ЗДАМ

- Пакой у 3-пакаёвай кватэры ў Маладзечне. Т. (8-029) 5719435.*

### ІНШАЕ

- Лазня 6х4. Т. (8-029) 9453139.*







# ПАСЛУГІ

### ДЛЯ МАЛАДЫХ

- Вясёлы тамада, жывая музыка, разумныя цэны.Т. (8-033) 3400865. Васкабовіч А.А.*

### ФОТА-, ВІДЭАЗДЫМКА

- АМ-Відэа. Відэаздымка і мантаж вясельных фільмаў, карпаратываў, мерапрыемстваў. Якасць HD. ІП Малько А.Г. УНП 691291314. Т. Вэлком (8-029) 8745891.*
- **ФАТОГРАФ. ВЯСЕЛЛІ. ПАМЯТНЫЯ ДНІ. СЯМЕЙНАЕ ФОТА. LOVE STORY. ПАРТРЭТЫ. ЛІЧБАВАЯ І СТУЖКАВАЯ ФАТАГРАФІЯ. Юркоў У.А. Т. (8-044) 5745873.***

### ПАСАЖЫРАПЕРАВОЗКІ

- Здам у арэнду аўтобус ПАЗ 25 + 15 месцаў. Т. (8-029) 6689034.

### ГРУЗАПЕРАВОЗКІ

- Мерсэдэс-508, тэнт, да 3 тон + 5 пасажырскіх месцаў, па горадзе і РБ. Кватэрныя пераезды. Вываз смецця. Грузчыкі. ІП Шабуня С.А. УНП 691885349. Т. МТС (8-029) 8548742, Вэлком (8-044) 4784873.*
- **ГРУЗАПЕРАВОЗКІ** да 3 тон, горад, РБ, мэблевы фургон. ІП Радзівановіч А.А. УНП 691890548. Т. (8-029) 5064233.*
- Грузаперавозкі. Бус 1,5 тн. Т. (8-029) 1921299. ПУП "Дойлід-С" УНП 600077312.*
- Грузаперавозкі. Фура-борт, 20 тон. Т. (8-029) 1921299. ПУП "Дойлід-С" УНП 600077312.*
- МБ-Спрынтар, суцэльнаметалічны, 4,20х1,75х1,65 м. ІП Навойчык А.У. УНП 692015166. Т. (8-029) 1684717, (8-029) 7684717.*
- Мерсэдэс - 412, 2,5 т, 20 куб.м. Санпашпарт. Пераезды. Без выхадных. ІП Габрыновіч А.В. УНП 691885058. Т. (8-029) 7015520.*

### ІНШЫЯ ПАСЛУГІ

- Спілуем дрэвы любой складанасці. ІП Шабуня С.А. УНП 691885349. Т. МТС (8-029) 8548742, Вэлком (8-044) 4784873.*
- Агароджы з прафнасцілу, штыкетніка, бесера. Вароты адкатныя, якія расхінаюцца. Танна. ІП Мельнікаў П.Е. УНП 691518576. Т. (8-044) 5352329, (8-029) 7623561.*
- Аграсядзіба, **ЛАЗНЯ.** vslobode.by ІП Камінскі А.Н. УНП 192737618. Т. (8-029) 6130457.*
- **АДДЗЕЛКА ДАМОЎ САЙДЫНГАМ.** ІП Бяліцкі А.В. УНП 690688577. Т. (8-029) 7085907, (8-029) 1232842.*
- Бурэнне свідравін (скважин) на ваду. ІП Суббот П.І. УНП 692010733. Т.(8-029) 7737451, (8-029) 1285233.*
- Бурэнне свідравін (скважин) на ваду. Хутка. Нядорага. Акцыі. Скідкі. ІП Янцэвіч А.Г. УНП 590945450 Т. МТС (8-029) 7860317, Вэлком (8-029) 1287878.*
- Бурэнне свідравін (скважин) на ваду. Нізкія цэны. ІП Мацін А.М. УНП 691410712 Т. (8-029) 9447224, (8-033) 6911759.*
- Бухгалтарскі ўлік. ІП Сільцова М.І. УНП 691507537. Т. МТС (8-029) 7632186.*
- Выраб розных металавырабаў, варот, брамак, агароджаў з сеткі і прафнасціла, навесы і г.д. Замер, дастаўка, устаноўка. ІП Мазалеўскі М.В. УНП 691514343. Т. (8-029) 5081330.*
- **ВЫРАБ ЯКАСНЫХ ЧАХЛОЎ** любой складанасці, пашыў аўтамабільных салонаў, тэнтаў для лодак і катэраў. ІП Мацко А.А. УНП 691514463. Т. Вэлком (8-029) 6932184.*
- Добраўпарадкаванне пахаванняў, устаноўка помнікаў. ІП Нільва А.С. УНП 691880467. Т. (8-029) 3469417.*
- Кладка, дах, фундамент, аддзелка. ІП Яновіч Ч.А. УНП 600163826. Т. (8-0176) 734961, (8-029) 5024571.*
- Мантаж, дэмантаж даху, кроквенная сістэма. Аддзелка дамоў, франтонаў сайдынгам. Кладка блокаў. Сцяжка падлогі, ламінат. Устаноўка агароджаў. Наяўны і безнаяўны разлік. ІП Бажко А.В. УНП 691888639. Т. (8-029) 6943243, (8-033) 3013300.*

Прадам **ДАЧУ** паблізу Вілейкі, Плікавічы. Участак 10 сотак. 4 км да вадасховішча.



Т. (8-029) **651 20 36**.



# СПАЧУВАННЕ

Калектыў "Рэгіянальнай газеты" выказвае шчырае спачуванне **Святлане Харлан** з прычыны напаткаўшага гора – смерці дарагога і блізкага чалавека Аляксандра Віктаравіча Кельпута.

# Як вучні з Ільі адпачылі ў лагеры

ВІЛЕЙКА

**У танцавальным марафоне, спаборніцтвах па спартыўных гульнях і стральбе, экскурсіях па Ільяншчыне і майстар-класах паўдзельнічалі вучні, якія наведвалі лагер "Ільянскія вандроўнікі" на базе мясцовай школы.**


Фота забеспечанае Людмілай МІКУЛІЧ.

Падчас экскурсіі ў ільянскім каледжы.

Выхаванцы лагера былі ў басейне, у вілейскай выратавальнай станцыі. Наведалі з экскурсіямі ўчастковую бальніцу і пажарную часць №14 у Ільі. Выратавальнікі дазволілі ім залезці ў пажарную машыну і прымераць адзенне, у якім яны працуюць на пажары.

Наведаўшы школьныя народныя музеі "Ільянскія даляглядь", "Вілейшчына літаратурная" і здзейсніўшы падарожжа "Культавыя святыні Ільяншчыны", дзеці далучыліся да краязнаўства.

Прадэманстравалі свае творчыя таленты змаглі ў інтэрактыўных конкурсах "SOS" – складанне кнігі-скаргі прыроды", "Мінута славы", "Бяспечнае лета", конкурсах малюнкаў на тэмы "Наш падарунак Перамозе", "Ілюстрацыя да любімай казкі", "Мой родны кут ...", "Прафесія – выратавальнік". А для тых, хто хацеў паспрабаваць сябе ў ткацтве, запрасілі майстроў з Дома рамёстваў у Ізбіно.

Атрад у лагеры выпускаў газеты, плакаты, калажы на тэмы "Моладзь – за здаровы лад жыцця", "Зберажом Зямлю сваімі рукамі", "Сямейны партрэт", "Дзякуй за жыццё".

Кожнае лета ў Ілью прыязджаюць супрацоўнікі з Вілейскага ДТСААФ. Школа ўдзячная старшыні арганізацыі **Васілю Гулецкаму** і спецыялісту па ідэалагічнай рабоце **Зінаідзе Гулецкай**.

Яны разам з педагогамі зладзілі ў лагеры сумеснае спартыўна-патрыятычнае мерапрыемства "Гонар. Доблесць. Айчына", конкурс па стральбе з пнеўматычнай вінтоўкі "Меткі снайпер", навучанне зборцы і разборцы аўтамата.

Яны таксама арганізавалі падарожжа ў вайсковую часць расійскага ваенна-марскога флоту "Антэй". Тут выхаванцы наведалі музеі, казармы, пажарную часць, самі змаглі паўдзельнічаць у "тушэнні" пажару.

У цэнтры верхавой язды ў Старынках **Алена Волкава** паказала дзецям коней розных парод, расказала, як даглядаць за імі. Самыя смелыя змаглі пакатацца вярхом.

Выхаванцы лагера ўдзельнічалі ў экалагічных дэсантах "Зялёная хваля", "Экалагічны пост", працоўных акцыях "Абеліск", "Клопат", "Добрае сэрца", "Чысты школьны двор", "Зялёная планета".

Падчас сустрэчы з журналісткай і паэткай **Аксанай Ярашонак** выхаванцы пачулі вершы і песні на беларускай мове. Аксана расказала пра сваю журналісцкую дзейнасць. Нас захапіў аповед пра прытулак для жывёл на Валожыншчыне, пра сустрэчы землякоў вёскі Будзішча. Аксана Ярашонак расказала аб праектах "Рэгіянальнай газеты", запрасіла паўдзельнічаць у іх.

Штодня ладзілі інфармацыйныя хвілінкі.

У аздараўленчым лагеры мы маем свае грашовыя адзінкі – "ільяшы" наміналам 5, 10, 20, 50 і 100.

За кожны дзень у лагеры выхаванцам налічваюць пэўную суму "ільяшоў" за працу, спорт, грамадскую дзейнасць.

А за дрэнныя паводзіны, нецэнзурную лексіку, бойку, абразлівыя адносіны да іншых выхаванцаў дзеці плацяць штраф.

У апошні дзень лагера зладзілі кірмаш, дзе выхаванцы набылі за "ільяшы" пэўныя канцылярскія прылады, сувеніры і іншыя патрэбныя рэчы.

**Людміла МІКУЛІЧ, дырэктар аздараўленчага лагера "Ільянскія вандроўнікі" Ільянскай сярэдняй школы імя Грымаця.**

# Пакуль астатнія чакаюць гаспадароў, Тобі ляціць у Бостан на ПМЖ

## У вёсцы Алешчаняты на Валожыншчыне сям'я стварыла прытулак для сабак

ВАЛОЖЫН

**Вёскі Алешчаняты няма на карце. Аднак насамрэч яна ёсць. У ёй жывуць зусім нешматлікія вяскоўцы. Але сабак больш.**

Тут, на радзіме сваіх продкаў, **Алена Крэйніс** разам з мужам **Ігарам** стварылі прытулак для сабак.

– На гэтым месцы жыў мой прадзед, – распавядае Алена, праводзячы экскурсію па двары. – А вось у гэту хатку мяне прывезлі з радзільні.

Першапачаткова Ігар і Алена хацелі зрабіць у Алешчанятах аграсядзібу. Аднак, на думку гаспадыні, часта ў такія сядзібы прыязджаюць толькі для таго, каб папіць гарэлкі. Увесь энтузіязм вырашылі накіраваць на кінутых сабачак.

Хаця не толькі на кінутых. Калі я пад'ехала да хаты ў Алешчанятах, мяне сустрэў вялікі пудзель **Арні** – уласны сабака гаспадароў. Руды прыгажун, адзіны ў Беларусі, пераможца шматлікіх выстаў на радзіме і за мяжой. Пастаянны герой для фотасесій з валожынскай малечай.

### Інвалідны вазок для Блэйта

Астатнія гадаванцы ў Алешчанятах знаходзяцца пэўны час. У кагосьці гаспадары часта ездзяць за мяжу. Таму здаюць сабаку ў прытулак, аплаціўшы яго знаходжанне тут. А большасць сабак прывозяць валанцёры.

– Колькі ў вас гадаванцаў на сёння? – пытаюся ў Ігара, гаспадара аграсядзібы.

– А хто ж іх лічыў, – адказвае мужчына.

І мы ідзём да сабачых вальераў, каб пералічыць усіх насельнікаў, а заадно і пазнаёміцца з кожным.

Вось аўчарка Блэйт. Ігар дапамагае сабаку падняцца. У жывёлы перабіты пазваночнік. Задняя частка зусім не слухаецца. Але ў яго моцныя пярэднія лапы і шырокія грудзі.

Для Блэйта гаспадары плануюць набыць інвалідны вазок. Такія прыстасаванні робяць у Санкт-Пецярбургу. І каштуе вазок каля 150 долараў. Задняя частка тулава сабакі-інваліда і задні лапы замацоўваюць у вазок на колах. Такім чынам жывёла можа хадзіць і нават бегаць.


Фота Аксаны ЯРАШОНАК.

Дачка гаспадароў Арына з Пятнашкам.

– Калі набудзем яму вазок, баюся, што не ўгонімся за ім. Бо сабака вельмі дужы, – далучаецца да размовы школьніца **Арына**, дачка гаспадароў.

Дзякуючы сабакам Арына, па словах мамы, заўсёды летам мае справы. Дапамагае бацькам карміць і даглядаць жывёл. І кішэнныя грошы дзяўчынка траціць на корм для гадаванцаў.

Рэабілітацыйны цэнтр з басейнам для сабак-інвалідаў – толькі мара гаспадароў. Пакуль яго ролю вельмі ўмоўна выконвае рака, што працякае побач.

### Лепш пра Чуню раскажы

Гаспадар прытулку Ігар сабак любіць з дзяцінства. Ён нарадзіўся ў цэнтры Мінска. Ідучы са школы, часта прыводзіў бадзяжных сабак дадому, карміў і хаваў пад ложак ад бацькоў. Але звычайна ў той жа дзень сабаку даводзілася зноў весці на вуліцу.

Ужо дарослым пераехаў у Берлін, дзе, па яго словах, чым толькі не займаўся. Пераважна працаваў як будаўнік. З Аленай пазнаёміўся па інтэрнэце. Прыехаў, убачыў яе і назаўтра прапанаваў замуж.

– Што ты ўсё пра нас? Ты пра **Чуню** раскажы, – перапыняе мужа Алена.

Чуня – яшчэ адзін сабака-інвалід. Ён невідушчы. З-за сваёй хваробы не адчувае часу сутак. Яму ўжо 12 гадоў, што для сабакі нямала. Валанцёры знайшлі яго ў канаве і прывезлі сюды.

Па словах гаспадароў, Чуня бяскрыўдны. Нават суседская кошка прыходзіць у вальер паесці з яго міскі.

**Рычы** прывезлі ў прытулак худога і недагледжанага, з пролежнямі. Але што б чалавек з ім ні рабіў, сабака заўжды ласкавы, кажа Ігар.

А як рэагуюць суседзі на такі занятак Алены і Ігара? Мясцовыя жыхары – сям'я пенсіянераў – не крыўдзяцца. Бабуля-суседка нават дае малако ад сваёй каровы.

– Ёсць, канешне, незадаволеныя дачнікі, – дзеліцца Ігар. Яны прыязджаюць з горада і хочуць спаць да абеду. А сабакі каля шасці раніцы пачынаюць гучным брэхам прасіць сняданак. Але на што тут крыўдзіцца? У вёсцы ўсе падымаюцца рана. Хочаце паспаць – купляйце домік у дачным кааператыве.

### Лекса, Марта, Свара і Рэй… Міхалыч

**Рэя Міхалыча** валанцёры прывезлі з абрыўкам ланцуга. Чаму Міхалыч? Проста Рэяў у нас ужо шмат было, кажуць гаспадары. Клічуць так, каб адрозніць ад ранейшых.


Фота забяспечана Аленай КРЭЙНІС.

Пудзель Арні – пераможца шматлікіх выстаў у Беларусі і за мяжой – з гаспадыняй Аленай Крэйніс.

Шмат кінутых сабак цяпер у Мінску. Тут зносяць прыватныя сектары. Многія гаспадары або проста адпускаюць сабаку, або пакідаюць навязаным на ланцугу ля будкі.

Калі жывёла дужая, яна адрывае ланцуг. Калі ж не хапае сіл, можа загінуць. Гаспадары не хаваюць: першапачаткова з Рэем было цяжка. Прыехаў ён сюды сапраўдным агрэсарам. І нават пакусаў Ігара. Але пад чулым наглядам гаспадароў і ў выніку "прафілактычных гутарак" стаў "добрым хлопцам".

Дзве сястрычкі **Лекса** і **Марта** трапілі ў прытулак шчанюкамі. Марту хутка ўладкавалі. Лекса ж чакае гаспадароў.

Алена з Ігарам і валанцёры часта бываюць у пункце ўтрымання сабак у Мінску. Па сваім пашпарце жывёл адсюль можна забіраць. Адтуль у прытулак трапіла **Свара**. Хутка яе забіраюць у Саратаў.

### Куды едуць і ляцяць сабакі з Алешчанятаў

Расія – гэта не самая далёкая краіна, куды з'язджаюць на ПМЖ сабачкі з Валожыншчыны. Аднаго прыстроілі ў Польшчу ў сям'ю дыпламата, другога – у Галандыю.

Хутка развітаецца з Алешчанятамі **Тобі**. Жанчына з Бостана, фінансавы куратар, аплачвала яго знаходжанне ў прытулку і забярэ сабаку сабе. Таму Тобі ўжо называюць амерыканцам.

У аднасінах да бадзяжных жывёл мы дзікуны, – перакананая Алена. – За мяжой жывёл не пазбаўляюць жыцця толькі за тое, што яны бяздомныя.

Так, колькасць скарачаюць. Толькі сабак не забіваюць, а стэрылізуюць.

### Эсэмэска "забярыце яго!" ад новага гаспадара

Па словах гаспадароў, забіраюць сабак з прытулку абсалютна розныя людзі. Нельга намаляваць тыповы партрэт. Гэта можа быць і адстаўны вайсковец, і сям'я з малымі дзецьмі.

Аддаюць гадаванцаў бясплатна, з усімі прышчэпкамі і пашпартамі. Праўда, за лёсам забраных сабак Крэйнісы сочаць. Час ад часу просяць у новых гаспадароў дасылаць фотаздымкі жывёл у новым доме.

Аднак не заўсёды спробы ўзяць сабаку з прытулку заканчваюцца добра. Быў выпадак, калі мужчына днём узяў сабаку, а ў чатыры гадзіны раніцы даслаў смс "забярыце яго".

Новы гаспадар сам быў вінаваты, распавядае Алена. Мы заўсёды папярэджваем, каб ні ў якім разе сабаку не садзілі на ланцуг. Мужчына не паслухаўся.

У выніку ноччу сабака справіў такое выццё, што пабудзіў усіх далёкіх і блізкіх суседзяў. Калі ў новых гаспадароў нешта не складзецца, прытулак заўсёды забірае сабак назад.

– Вельмі просім, каб хаця не білі і не выкідалі на вуліцу, – кажа Алена.

### Аўсянка, макароны, кілбаса – усяго па кілаграму

Машына ў гаспадароў прытулку вялікая – каб улазілі сабакі. У халадзільніку – вакцыны, сродкі для апрацоўкі поўсці і ежа для сабак.

Каб накарміць адзін раз усіх гадаванцаў, Алена варыць кілаграм макароны, кілаграм аўсянкі і кілаграм сабачай кілбасы. А кормяць сабак два разы на дзень. Курыцу не даюць: лічаць, шмат у ёй хіміі.

Сухі корм гаспадары крыху дадаюць у ежу, каб трапілялі вітаміны.

– У нашай сітуацыі адзін сухі корм – не выйсце, – кажа Ігар.

Па-першае, дорага. Можна браць і таннейшы, але тады ўвогуле сэнсу ніякага: пасля яго сабакі застаюцца галоднымі.

Па-другое, не ўсе сабакі, што трапляюць у прытулак, ведаюць, што рабіць з сухім кормам. Яны ніколі не елі такога, таму ў лепшым выпадку пачынаюць з ім гуляць.

### Мара гаспадароў прытулку пакуль не спраўдзілася

Утрымліваюць прытулак за грошы валанцёраў, а таксама гаспадароў, што здаюць сюды сваіх гадаванцаў на час камандзіровак і паездак. Пры гэтым, кошт для валанцёраў значна ніжэйшы, чым для гаспадарскіх сабак.

Некаторых жывёл, звычайна самых хворых і няшчасных, утрымліваюць людзі з-за мяжы. Яны называюцца фінансавымі куратарамі.

Па словах Алены, дапамагаюць знаёмыя і незнаёмыя людзі, прывозяць крупы, сухі корм. Неяк патэлефанавалі мінскія эмэнэснікі, у якіх пасля вучэнняў засталіся прадукты, прапанавалі забраць усё для сабак.

Павадкі для гадаванцаў у прытулку робіць сама Алена з тоўстай вяроўкі – такі зручны і бюджэтны варыянт.

У маі ў прытулку здарылася няшчасце – згарэла лазня і дом гаспадароў. Алена з Ігарам жылі ў машыне, бо не маглі кінуць жывёл. Дом ужо адбудавалі. Праўда, засталіся без лазні. Але галоўнае – ні адзін сабака не пацярпеў.

У Алены Крэйніс ёсць мара, якая яшчэ не здзейснілася. А марыць жанчына пра тое, што аднойчы ўсе клеткі ў прытулку будуць пустымі.



Аксана ЯРАШОНАК
aksanayarashonak@gmail.com
8-044-566-26-99 (працоўны)

*Усе людзі нараджаюцца свабоднымі і роўнымі ў сваёй годнасці і правах. Яны надзеленыя розумам і сумленнем і павінны ставіцца адзін да аднаго ў духу брацтва.*

Усеагульная дэкларацыя правоў чалавека.

# 21 стагоддзе, а ў маладзечанцаў прыбіральня на двары і газавы балон на кухні

МАЛАДЗЕЧНА

**Часам усё ж карысна пакідаць свой маленькі свет, дзе самая вялікая праблема заключаецца ў тым, што адключылі гарачую ваду або што чайнік на пліце доўга закіпае, а ўжо госці на парозе.**



Падвалаў у доме №10 па вуліцы Маркава няма, жыхары захоўваюць гаспадарчыя рэчы ў такіх пабудовах. Але, як прызнаюцца, нарыхтоўкі там не захаваеш – хутка сапсуюцца.

І выходзіць у вялікі свет, дзе на суседняй вуліцы жывуць людзі, у якіх увогуле санвузла ў доме не прадугледжана. Дзе няма балконаў, каб развесіць бялізну, таму ёсць рызыка прынесці на прасціне з двара яшчэ і парачку кляшчоў.

А прыбіральня, тая самая "зручнасць", якой хваліўся Цімох з фільма "Белыя росы", памятаеце?

– Па малой патрэбе на вуліцу выходзіць не трэба…

А вось жыхарам дома №10 па вуліцы Маркава трэба. А калі ўлічыць, што ў гэтым старым доме жывуць бабулі, якім даўно за 90, то ўявіце, у які фільм жахаў ператвараецца звычайны артыкул.

Нашымі суразмоўцамі сталі жыхаркі дома **Марыя Міхайлаўна** і **Фаіна Аляксандраўна.**

Жывуць яны тут не ад самага першага дня, кватэру набылі пазней.

Расказвае Марыя Міхайлаўна:

– Я жыла ў Нясвіжы ў сваім доме. Муж памёр, засталася адна. А тут у Маладзечне сёстры, дзеці, таму мяне ўкінулі ў машыну, як ката, і прывезлі сюды, быццам у вулей.

Пакойчыкі ў доме маленькія, 18 метраў. Вокнаў на кухні няма. Гарачай вады няма таксама. Зімой, расказваюць, сцены пакрываюцца цвіллю.

Цяпер жыхары дабіваюцца, каб ім правялі ў кватэру газ.

– Гэта ж страшна падумаць, газавая пліта стаіць, а побач газавы балон. Не дай бог што, дом узляціць у паветра.

Свой дом па вуліцы Маркава жыхары любяць не асабліва, жывуць, бо тут танна наймаць жыццё, танна было купіць кватэру. Затое пад'езды любяць каты і бамжы.

– Пастаянна на прыступках нехта спіць: ці кот, ці бомж.

А дамафон на васьмікватэрны пад'езд паставіць дорага. Ды яшчэ ў першым пад'ездзе ў дзвюх кватэрах ніхто не жыве.

Асаблівая тэма – гэта прыбіральня на вуліцы.

Кватарант, што наймаў тут кватэру, прызнаваўся, што ўнітаз урэзалі прама ў дажджавы сцёк.

Ад таго, што да прыбіральні трэба ісці праз увесь двор, пакутуюць і жыхары дома, і жыхары суседніх дамоў. Бо жыхары шматпавярховак, што месцяцца побач, улетку не могуць адчыніць вокны – разам з летнім ветрам у кватэру далятаюць пахі той прыбіральні.

Віталь, хлопец-кватарант, расказваў, што кватэру тут наймаў, бо было танна.

– Што сказаць пра дом, звычайны часовы пасляваенны барак. Адзінае пра што шкадую, што не ўзяў сабе газет 40-х гадоў, якія захоўваліся ў гаспадыні ў шафе. А гаспадыню звалі **Сталіна Аляксандраўна**.



Жыхаркі дома №10 па вуліцы Маркава Марыя Міхайлаўна і Фаіна Аляксандраўна маюць права на камфортнае жыллё.

**Наталля ТУР,**
**Галіна СУДНІКОВІЧ.**
**Фота Наталлі ТУР.**

## Начальнік ЖРЭУ наконт чысціні ў прыбіральні: "Некаторыя проста не даходзяць да яе"

На заўвагі жыхароў дома па вуліцы Маркава, 10 адказаў начальнік ЖРЭУ №3 Маладзечна **Сяргей Аноп**.

– Для таго, каб вырашаць праблему з цвіллю, у першую чаргу трэба вызначыць прычыну яе з'яўлення, – тлумачыць спецыяліст. – Жыхарам дома трэба звярнуцца ў ЖРЭУ, каб нашы спецыялісты прыехалі на месца і разабраліся. У 70% выпадкаў прычынай з'яўляецца тое, што жыхары самі не выконваюць тэмпературны рэжым, не падтрымліваюць мікраклімат у кватэры.

Начальнік ЖРЭУ №3 адзначыў, што ўборкай прыбіральні, якая знаходзіцца на вуліцы, займаецца спецыяліст з камунальнай службы, пры гэтым выкарыстоўвае дэзінфікуючыя сродкі, хлорныя растворы.

– Аднак трэба адзначыць, што некаторыя жыхары нядбайна адносяцца да чысціні ў прыбіральні, – расказвае спецыяліст. – Некаторыя проста не даходзяць да яе, спраўляюць патрэбу каля яе. Таму прыбіральшчыкам даводзіцца наводзіць парадак і каля прыбіральні.

Сяргей Аляксандравіч патлумачыў жыхарам і прынцып устаноўкі дамафонаў у доме.

– Напачатку неабходна, каб жыхары дома дамовіліся паміж сабой, ці патрэбны ім дамафон, бо гэта будзе каштаваць грошай, – адзначае спецыяліст. – Звярнуліся ў арганізацыю, якая займаецца ўстаноўкай, даведаліся цэны, затым сабралі грошы з усіх жыхароў. Пасля заключаецца дамова з арганізацыяй і ўстанаўліваецца дамафон. Па такім прынцыпе дамафоны ўстанаўлівалі ва ўсіх дамах Маладзечна.

Наконт гарачай вады спецыяліст адказаў, што па праекце яна не прадугледжаная. Каб вырашыць праблему, жыхарам трэба звярнуцца да мясцовых органаў улады.

# З гісторыі маёнтка Солы

**Натрапіўшы на звесткі пра сувязь сусветна вядомых людзей са Смаргоншчынай, узнікае жаданне больш шырэй даведацца пра гісторыю падзеі і пра мясціны, з якімі звязаная гэта падзея.**

Такой чарговай нагодай стала знаходка факта, што 1(13) сакавіка 1870 года класік рускай літаратуры **Іван Тургенеў** накіраваў ліст **Наталлі Рашэт** у маёнтак Солы. Сярод іншага, пісьменнік заўважыў: "Я даже немедленно взял карту России на немецком языке – и отыскал в Ошмянском уезде деревню Солы на реке Ошмянка. Это ли Ваши Солы? (К северу от Ошмяны и в недалёком оттуда расстоянии). Я воображал, что Вы зимуете в Вильне, но, поразмыслив, вижу, что избрали благую часть".

Хто ж такая Наталля Рашэт і якое дачыненне яна мела да смаргонскіх мясцін? Пошук адказу прывёў да ўзнаўлення невядомага раней імя нашай землячкі. Наталля Мікалаеўна Рашэт (1830-1894) была малодшай дачкой генерала **Антропава**. Нарадзілася яна каля 1830 года ў Солах, спадчынным маёнтку маці – з роду Сабаньскіх. Выхоўвалася ў Беластоцкім інстытуце шляхетных дзяўчат, курсы якога скончыла ў 1847 годзе з залатым медалём і ў хуткім часе выйшла замуж за камандзіра гвардзейскага сапёрнага батальёна **Уладзіміра Рашэта**, унука знакамітага скульптара **Якава Рашэта**. Муж быў нашмат старэйшы за жонку, пражыў з ёй нядоўгі час і пасля смерці ў жніўні 1855 года пакінуў яе маладой ўдавой. Праз некаторы час Наталля Рашэт зноў выйшла замуж за свайго сваяка **Л.Антропава**, але гэты шлюб быў непрацяглым, і пасля разводу Наталля стала зноў выкарыстоўваць прозвішча Рашэт.

У 1860 – 1872 гадах жыла за мяжой – у Германіі, Швейцарыі, Францыі, дзе Іван Тургенеў з ёй пазнаёміўся ў пачатку 1860-х у Парыжы. Пісьменнік пастаянна сустракаўся і пасылаў лісты гэтай "любезной, милой женщине", да якой быў "искренне привязан", "правдивость, чистоту и доброту души" якой ён глыбока паважаў. Іван Тургенеў прыцягнуў Наталлю Рашэт да перакладу з французскай мовы казак Шарля Перо, выданне "Казак" з дарыльным подпісам пісьменніка да нашай землячкі захоўваецца ў кніжных фондах Дзяржаўнага літаратурнага музея.

Таксама ў архіве пісьменніка захоўваецца яе фотаздымак і 48 лістоў ад Тургенева да Рашэт за 1862 – 1872 гады. Сярод яе добрых знаёмых можна ўзгадаць **А.Жамчужнікава**, **Ганчарова**, **Дабралюбава**. У сваім радзінным сельскім маёнтку Наталля Рашэт праводзіць з дочкамі зіму 1870 года, пра што сведчыць узгаданы ліст вядомага пісьменніка.

Пасля смерці 27 чэрвеня 1876 года яе маці **А. Антропавай**, магіла якой зберагаецца да сённяшняга часу на мясцовым касцельным цвінтары, наступным уладальнікам Солаў становіцца **Аўксенцій Сцяпанавіч Іваноў**. Пакуль зусім нямнога фактаў раскрывае біяграфію новага гаспадара.

Нарадзіўся Аўксенцій Іваноў 14 лютага 1842 года, адукацыю атрымаў ў Пятроўскім Палтаўскім кадэцкім корпусе і другім ваенным Канстанцінаўскім вучылішчы. Падчас паўстання 1863 – 1864 гадоў апынуўся на Віленшчыне і з 21 жніўня 1868 года ў званні паручніка служыў памочнікам рэманціра ў рамонтна-артылерыйскай камандзе Віленскай акругі. Рэманціры закуплялі і пастаўлялі коней і артылерыйскі рыштунак для арміі. Паспяхова выконваючы ўскладзеныя на яго абавязкі, палкоўнік, а потым генерал-маёр Аўксенцій Іваноў ад 1872 да 1899 года займае пасаду рэманціра артылерыі акругі.

Пасля адстаўкі, ад 1900 года да Першай сусветнай вайны, жыў пераменна ў сваім віленскім доме на Георгіеўскім праспекце ці ў сольскай сядзібе, з'яўляўся ганаровым суддзёй Смаргонскай судова-міравой акругі, сябрам савета Віленскага сельскагаспадарчага таварыства, старшынёй прыёмнай камісіі па ваенна-коннай павіннасці… За гады службы быў узнагароджаны ордэнамі св.Уладзіміра 4 ступені, св.Ганны і св.Станіслава 3 і 4 ступеняў.

Разбагацеўшы на артылерыйскіх закупках, Аўксенцій Іваноў пасля 1876 года набывае маёнтак Солы і пачынае разбудоўваць гаспадарку, укладваючы ў развіццё вялікія капіталы. У 1885 годзе заснаваў Сольскі вінакурны завод №309. У пачатку 20 стагоддзя на ім працавалі восем рабочых, гадавая вытворчасць спірту складала 27 тысяч вёдзер (1 вядро – 12,3 літра), на суму 15 тысяч рублёў. На супрацьлеглым ад маёнтка правым беразе ракі Ашмянка закладваецца новае паселішча з назвай Малыя Солы. Зяць генерала Іванова Гродзенскі губернскі прадвадзіцель дваранства, калежскі саветнік, камергер **Мікалай Невяровіч** па сваім метадзе і пры непасрэдным кіраўніцтве будуе тут у 1908 годзе глінабітны сядзібны дом, эксперыментуе з іншымі тэхналогіямі глінабітнага будаўніцтва.




Кавалак карты 1910 года з мястэчкам Солы Ашмянскага павета.

Але самым маштабным сельскім праектам Аўксенція Іванова стала арганізацыя рыбнай гаспадаркі. Як адзначала выданне "Край" у публікацыі за 25 чэрвеня 1904 года, у Солах на той час было затоплена вадой 160 дзесяцін балот з запланаваных 350 дзесяцін, стварaліся восем адсепараваных сажалак. Заснаванне рыбнай гаспадаркі павінна была каштаваць 350 тысяч рублёў, што абавязкова акупілася ў будучым. Для патрэб вытворчасці ад чыгуначнага раз'езда №12 пракладвалася вузкакалейка працягласцю чатыры вярсты. Работамі кіраваў вядомы вучоны-іхтыёлаг **Сабалеўскі**. Ужо на наступны год сельская гаспадарка прапаноўвала для зарыблення каралеўскага карпа, кошт якога складаў 1 рубель за капу, гэта значыць за 60 малявак. Перад Першай сусветнай вайной жывая рыба з Солаў карыстаецца вялікім попытам на рынках Вільні, Смаргоні, бліжэйшых гарадоў і мястэчак.

Памёр генерал-маёр Аўксенцій Сцяпанавіч Іваноў 21 студзеня 1923 года і быў пахаваны каля жонкі **Марыі Аляксандраўны** (1849-1919) на Еўфрасінеўскіх могілках у Вільні. Па звестках святара **Л.Савіцкага**, у міжваенны перыяд магіла Івановых была "абвеяная любоўю блізкіх, упрыгожаная іх клапатлівай рукой". Іх агульны надмагільны помнік захаваўся да нашых дзён і знаходзіцца побач са Свята-Еўфрасіннеўскай царквою.

Пасля смерці Іванова сельскія ўладанні пераходзяць у спадчыну яго нашчадкам. У маёнтку Вялікія Солы гаспадарыць сын **Яўген**, маёнтак Малыя Солы дастаецца сыну **Паўлу**, а **Сяргею Іванову** належыць маёнтак Вялікія Рачуны. Летам 1923 года ў фальварку Рудзішкі ўзводзіцца новы глінабітны сядзібны дом, куды пераязджаюць дачка генерала **Ніна** і яе муж Мікалай Невяровіч, аўтар уласнай тэхналогіі ўзвядзення будынкаў з гліны і палення. Распачынаецца новая старонка жыцця ў гэтым кутку нашага краю, але яна вартая асобнага артыкула.

**Уладзімір ПРЫХАЧ,**
**Смаргонь.**

# Па шляху першай у Беларусі электрычкі

*Заканчэнне. Пачатак ў нумары 25.*

МАЛАДЗЕЧНА

**Калі ўпершыню, больш за паўстагоддзя назад, пусцілі электрацягнік з Мінска да Алёхнавічаў, то гэта не прайшло без увагі. Інфармацыя гучала па радыё. Пра падзею пісалі ў газетах, паказвалі па тэлебачанні.**

### Станцыі Радашкавічы, Беларусь, Раманы…

Але электрацягнік спяшаецца далей. Станцыя Радашкавічы, а населены пункт – вёска Пятрышкі. Да мястэчка Радашкавічы адсюль кіламетраў 10. І пад кожны электрацягнік падыходзіць аўтобус. Перад самой станцыяй чыгунка перасякае канал Вілейскай сістэмы. Вакол многа летнікаў.

Перад чарговым прыпынкам над чыгункай пралягла шаша другой кальцавой аб'язной дарогі, што хутка цалкам замкнецца вакол Мінска. Наступны прыпынак "Анусіна", пасля "Хмелеўка". Перад прыпынкам чыгунка апошні раз перасякае канал Вілейскай сістэмы, дзе вада ў бок Мінска ўжо цячэ самацёкам. А катэджнаму пасёлку Хмелеўка нават планавалі надаць мінскую прапіску, але ў выніку прыпісалі да Заслаўя.

Чарговы прыпынак электрацягнік робіць у Заслаўі, хаця станцыя носіць назву "Беларусь". Заслаўе з Полацкам самыя старажытныя гарады краіны. Злева ад чыгункі, там дзе шмат храмаў, музей, – стары горад.

Следам ідуць станцыі Зялёнае і Крыжоўка. Паабапал лес, летам, восенню можна ехаць ў грыбы, ягады. Тут месцяцца старыя летнікі, якія пасля вайны выдзяляліся адказным работнікам за асаблівыя заслугі.

Наступная станцыя – Раманы. Яна вядомая сваім іпадромам, дзе праходзяць конна-спартыўныя спаборніцтвы. Добраўпарадкуецца, прыгажэе. Пасля цягнік спыняецца на Мінскім Моры. Доўгі час тут было адно з асноўных месцаў, куды гараджане ездзілі адпачываць.

Станцыя Ждановічы. Гэта ўжо мяжа Мінска. Раней, як упершыню пачала хадзіць гарадская электрычка, маршрут быў толькі дасюль, пасля маршрут працягнулі да Беларусі. Ёсць нават некалькі рэйсаў да Маладзечна.

А вось і чарговы прыпынак "Лябяжы". Тут самы вялікі ў краіне базар, таму сюды едзе нямала людзей – хто на працу, хто за пакупкамі.

За "Лябяжым" праз дзясятак хвілін і станцыя Масюкоўшчына, якая адразу асацыюецца са сваім агульнавядомым аб'ектам "Мінск-арэна". Пасля Радыятарны, цяпер Мінск-Паўночны. Мае выхад прама на станцыю метро. І, нарэшце, усё, прыехалі, канцавая станцыя Мінск-пасажырскі.

**Іосіф ПАЎКАЛАС,**
**вёска Навасёлкі-1**
**Маладзечанскага раёна.**

КАЛЯНДАР

## 1 ЛІПЕНЯ

**90 гадоў** з дня нараджэння **Зоры Кіпель** (дзявочае Савёнак; Мінск) (1927 – 2003), бібліёграфа, літаратуразнаўцы, публіцысткі, грамадска-культурнага дзеяча эміграцыі ў ЗША. У 1944 годзе разам з бацькамі апынулася ў Германіі. Вучылася ў Беларускай гімназіі імя Янкі Купалы ў Рэгенсбургу. Скончыла Лювенскі ўніверсітэт (1944, Бельгія) і Ратгерскі ўніверсітэт (ЗША). Адна са старшынь рэдкалегіі аднаго з першых англійска-беларускіх слоўнікаў. Аўтарка прац па гісторыі Беларусі, старажытнай літаратуры, асвеце. Разам з мужам Вітаўтам Кіпелем сабралі велізарную калекцыю беларускіх і беларусазнаўчых выданняў на Захадзе, якая захоўваецца ў Нью-Ёрскай публічнай бібліятэцы.

**1812 год.** Напалеон абвясціў узнаўленне Вялікага Княства Літоўскага і стварыў часовы ўрад Вялікага Княства Літоўскага.

## 3 ЛІПЕНЯ

**Дзень вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў.**

**1996 год.** Адраджэнне традыцыйнай пілігрымкі да цудатворнай іконы Маці Божай у Будславе.

## 6 ЛІПЕНЯ

**90 гадоў** з дня нараджэння **Кастуся Харашэвіча**, мастака-жывапісца. Нарадзіўся ў вёсцы Літва Маладзечанскага раёна, жыў у Маладзечне. У 1958 годзе скончыў Мінскае мастацкае вучылішча. Ад 1962 года ўдзельнічаў у рэспубліканскіх мастацкіх выставах. У 1969-м прыняты ў Саюз мастакоў. Уваходзіў у склад мастакоўскай суполкі "Пагоня". У 1999 годзе быў узнагароджаны медалём Беларускага Саюза мастакоў "За заслугі ў выяўленчым мастацтве". Імя Кастуся Харашэвіча занесенае ў сусветную энцыклапедыю сучаснага мастацтва. У 1999 і 2003 гадах прысуджаная спецыяльная прэмія "Талент" Маладзечанскага гарадскога выканаўчага камітэта ў намінацыі "Мастак года". Яго творы захоўваюцца ў мастацкім фондзе і Нацыянальным мастацкім музеі Беларусі, музеі сучаснага выяўленчага мастацтва, Дзяржаўным літаратурным музеі Янкі Купалы, Мінскім абласным краязнаўчым музеі ў Маладзечне, а таксама ў прыватных калекцыях за межамі Беларусі. Кастусь Іванавіч добра валодаў многімі музычнымі інструментамі, працаваў настаўнікам малодшых класаў, меў талент паэта і пісьменніка. Мог з дакладнасцю запілаваць рамку і аформіць любы свой твор, акрамя гэтага быў заўзяты рыбак. Памёр 12 ліпеня 2013 года.

**Марыя БЕРАСНЕВА.**

# “Бацька ўпэўніваў – творчасцю шмат не заробіш, я змог даказаць, што справа па душы можа прыносіць прыбытак”

## Уладальнік спецыяльнага прыза “РГ” пра конкурс “Адна зямля”

СМАРГОНЬ

**У 19 гадоў ён адкрывае танцавальную студыю, здымае кліпы, піша песні, удзельнічае ў шматлікіх творчых конкурсах, а самае галоўнае – ніколі не здаецца і ажыццяўляе сваю мару.**



Другая песня, якую выконваў Дзям’ян, была правакацыяй для залы, песняй хлопец хацеў крышачку расшавяліць гледачоў.



Дзям’ян Заіка падчас уручэння прызоў.

Таленавіты юнак з Гомеля **Дзям’ян Заіка** сёлета прадставіў Смаргонь на фестывалі-конкурсе “Адна зямля” і атрымаў спецыяльны прыз ад “Рэгіянальнай газеты”. Цяпер ён праходзіць тэрміновую службу ў Смаргоні, таму выступаў ад гэтага горада.

### Думаў, што не зможа пець

Юнак з пяці гадоў звязаў сваё жыццё з музыкай. Яшчэ ў дзіцячым садку выкладчыца па вакале параіла займацца ў музычнай школе, сям’я так і зрабіла.

– Мяркую, што мама (**Ірына Тарасікава**) была самым шчаслівым чалавекам ад гэтых слоў, – усміхаецца Дзям’ян. – Яна сама марыла стаць спявачкай, аднак жыла ў вёсцы, дзе не было музычнай школы. Калі трапіла ў горад, зразумела, што позна пачынаць. Таму, калі я пачаў пець, падтрымлівала, заахвочвала.

У 12 гадоў хлопец скончыў дзіцячую музычную школу №1 імя Чайкоўскага ў Гомелі. Усё б было добра, калі б не адно але.

– Якраз у гэтым узросце пачалася “ломка голасу”, – расказвае Дзям’ян. – Пачаў сталець, і голас станавіўся больш нізкім. Перажываў, што не змагу больш пець. Каля чатырох гадоў увогуле не спяваў. Танцы сталі той аддушынай, якая дапамагла не ўпасці ў роспач.

Хлопец займаўся ў студыі тэатра і танца “Livенъ”, якую паспяхова скончыў, актыўна ўдзельнічаў і перамагаў у танцавальных конкурсах, такіх як “Рытмы 21 стагоддзя”, “Танцавальны выбух”, Bizon open Cup, Must Dance, Project 818.

Паступова юнак пачынае пець і заяўляе ўсёй краіне і не толькі пра свой голас. Ён удзельнічае ў разнастайных праектах, сярод якіх “Бітва хароў”, “Голас краіны”, New open, “Гарады, якія спяваюць”, “Акадэмія талентаў”, “Танцуюць усе” і іншыя.

– Найбольш запамінальным быў праект “Хачу да Меладзэ”, – расказвае Дзям’ян. – Мне патэлефанавалі арганізатары і запрасілі на кастынг у Мінск, які я паступова прайшоў і паехаў для далейшага ўдзелу ў Маскву. Аднак не атрымалася прабіцца ў фінал. Песня, якую далі для выступлення, не пасавала мне. Аднак удзел прынёс каласальны досвед працы на вялікай сцэне, падарыў упэўненасць у сваіх сілах. І падарыў пачуцці, якія словамі не выкажаш.

### Пасля арміі пачне рыхтавацца да “Еўрабачання”

У 2015 годзе Дзям’ян спрабаваў трапіць на “Еўрабачанне” з правакуючай песняй I’m Sick. У хлопца быў рэальны шанец паехаць на конкурс. Аднак патрэбная была спонсарская дапамога для далейшага ўдзелу, на той час у артыста не было такой магчымасці.

Маладзён расцэньвае гэта як шанец лепш падрыхтавацца. Гэтым ён і плануе заняцца пасля таго, як скончыць службу ў арміі.

### Адкрыў танцавальную студыю ў 19 гадоў

Дзям’яна можна назваць паспяховым бізнесменам. У 19 гадоў юнак са сваёй дзяўчынай **Настассяй Разанавай** вырашылі адкрыць танцавальную студыю ў Гомелі. Першы час справа ішла вельмі цяжка, бо патрэбныя былі грошы на адкрыццё – прыйшлося пазычаць у знаёмых, дапамог і бацька Настассі.

Шчасцю маладых людзей не было межаў, калі праз тры месяцы студыя пачала акупляцца і прыносіць даход.

– Бацька часта мяне ўпэўніваў, што творчасцю шмат не заробіш, лепш заняцца сур’ёзнай справай, – расказвае Дзям’ян. – Аднак я змог даказаць і яму, і самому сабе, што справа, якая табе па душы, можа прыносіць не толькі задавальненне, а яшчэ і прыбытак. Спадзяюся, што мой прыклад можа стаць штуршком іншым маладым людзям, якія выбіраюць паміж справай па душы і дастаткам, не адмаўляцца ад сваёй мары і пераадольваць перашкоды. Так вы прынесяце больш карысці.

Як прызнаецца хлопец, у рабоце без спрэчак нікуды – у яго розныя музычныя густы, таму, калі рыхтуюць танцавальныя нумары, рыхтуюцца знімаць кліп, спрачаюцца. Згодай з’яўляецца стварэнне музычных міксаў.

У танцавальнай студыі маладыя людзі вучаць сучасным танцам, напрыклад, vogue, hip-hop , jazz funk.

### Пелі складаныя песні, аднак не пранеслі іх праз душу

Пакуль юнак служыць у арміі, кіруе студыяй Настасся. Перад тым, як пайсці ў армію, Дзям’ян меркаваў, што трэба будзе забыцца на музыку, прыйдзецца спяваць толькі армейскія песні. Аднак жыццё падрыхтавала прыемны сюрпрыз. Юнак трапіў у памежныя войскі ў Смаргоні, дзе ацанілі яго творчыя здольнасці, ён стаў членам аркестра Смаргонскай памежнай групы. Разнастайныя канцэрты, якія праходзяць у вайсковай часці, даюць магчымасць спяваць разнастайныя песні.

Менавіта ў вайсковай часці хлопцу і прапанавалі паўдзельнічаць у фестывалі-конкурсе “Адна зямля”.

Напярэдадні мерапрыемства Дзям’яна чакаў іспыт – у хлопца балела горла, размовы пра конкурс не магло і ісці. Аднак хваробу ўдалося перамагчы.

Падрыхтоўка ішла ўсяго тыдзень. Дапамагалі рыхтавацца афіцэры, якія кіруюць аркестрам, давалі прафесійныя парады. На конкурсе Дзям’ян выканаў дзве песні – лірычная “Лодка белая” і правакацыйная Lost Bray.

– У першай кампазіцыі хацелася паказаць, што адбываецца ў мяне ўнутры, – расказвае артыст. – Другая песня Lost Bray – гэта правакацыя для залы, гэта запал энергіі, у нейкай ступені хацелася павесяліць гледачоў, журы, паказаць, наколькі разнастайным магу быць.

Вельмі ўразіла юнака выступленне віляйчанкі **Вікторыі Саванец**, сіла яе голасу, эмацыйнасць, пранікнёнасць.

– Іншыя ўдзельнікі пелі дастаткова складаныя ў тэхнічным выкананні песні, – дае ацэнку Дзям’ян. – У песнях удзельнікі прадэманстравалі сілу свайго голасу, яго магчымасці. Аднак часам падавалася, што за прыгожым голасам няма ўсведамлення таго, што выканаўца разумее сэнс песні, не прапусціў кампазіцыю праз сваю душу. А гэта важна, каб унутраны настрой спевака і песні супадалі, каб былі блізкія. Таму не магу цалкам пагадзіцца з рашэннем журы.

Родныя Дзям’яна пакуль не змаглі раздзяліць з ім радасць перамогі і нават не ведаюць, што сын сярод фіналістаў, бо ён не размаўляў яшчэ па тэлефоне – служба не дазваляе.

**Галіна СУДНІКОВІЧ.**
**Фота аўтара.**

# На фестывалі-конкурсе “Адна зямля” большасць перамог – у маладзечанцаў


На наступны год фестываль-конкурс “Адна зямля” пройдзе ў Вілейцы. Адзін з кіраўнікоў каманды віляйчан Алег Зайцаў прымае эстафету – глобус “Адна Зямля”.



Дзмітры Апяцёнак, Яўген Сініковіч з выкладчыцай Ларысай Язневіч, Сяргей Кіндзякоў, Лада Лінкевіч.

СМАРГОНЬ

**24 чэрвеня ў Смаргоні адбыўся 19-ы рэгіянальны фестываль-конкурс выканаўцаў эстраднай песні “Адна зямля”. У ім паўдзельнічалі 33 выканаўцы з сямі гарадоў і раёнаў: Мядзельскага, Вілейскага, Маладзечанскага, Валожынскага, Ашмянскага, Астравецкага і Смаргонскага.**

Калі летась падчас мерапрыемства была спёка да +35, то сёлета фестываль прыйшлося пераносіць з амфітэатра ў Дом культуры, бо дождж ліў, як з вядра.

Кожны выканаўца павінны быў спець дзве песні, адна абавязкова на беларускай мове альбо беларускага аўтара. Удзельнікі былі падзелены на чатыры ўзроставыя групы.

**У першай узроставай групе (8-13 гадоў) пераможцамі сталі**

1. **Надзея Шчарбачэвіч**, Смаргонскі раён.
2. **Арцём Скароль**, Ашмянскі раён.
3. **Сяргей Кіндзякоў**, Маладзечанскі раён.

**Пераможцы другой узроставай групы (14-17 гадоў)**

1. **Ірына Храмцова**, Вілейскі раён.
2. **Яўген Сініковіч**, Маладзечанскі раён.
3. **Аляксандра Рынкевіч**, Смаргонскі раён.

**Пераможцы трэцяй узроставай групы**

1. **Дзмітры Апяцёнак**, Маладзечанскі раён.
2. **Лада Лінкевіч**, Маладзечанскі раён.
3. **Вікторыя Багінская**, Мядзельскі раён.

**Пераможцы чацвертай узроставай групы**

1. **Алег Уласік**, Астравецкі раён.
2. **Марта Сташкевіч**, Ашмянскі раён.
3. **Дзмітры Маркевіч**, Вілейскі раён.

Гран-пры фестывалю-конкурсу прысудзілі выканаўцы з Вілейскага раёна **Вікторыі Саванец**.

Прызы “Творчая надзея” атрымалі **Яна Вяль** з Маладзечанскага раёна і **Валерыя Дарашкевіч** з Астравецкага раёна.

Спецыяльны прыз ад “Рэгіянальнай газеты” па рашэнні журы прысуджаны **Дзям’яну Заіку** са Смаргонскага раёна.

Ацэньвалі ўдзельнікаў кіраўнік народнага клуба кампазітараў і паэтаў “Жывіца”, член Саюза музычных дзеячаў **Ірына Карнавухава**, галоўны хормайстар Мінскага абласнога цэнтра народнай творчасці **Вольга Нупрэйчык**, выкладчыца Гродзенскага дзяржаўнага каледжа мастацтваў **Іна Дзідарава**, выкладчыца Гродзенскага музычнага каледжа **Алеся Хадыка**.

На наступны год 20-ы юбілейны фестываль-конкурс “Адна зямля” пройдзе ў Вілейцы.

**Аддзел інфармацыі.**
**Фота Галіны СУДНІКОВІЧ.**


Дзмітры Маркевіч.


Алег Уласік.


Ірына Храмцова.


Дзям’ян Заіка.


Арцём Скароль.


Надзея Шчарбачэвіч.


Яна Вяль.


Аляксандра Рынкевіч.


Вікторыя Саванец.


Марта Сташкевіч.


Валерыя Дарашкевіч.


Вікторыя Багінская.




Ігар Някрасаў падчас падарожжа па Вілейшчыне.

## "Пакуль не аб'еду родную краіну, за мяжу ні нагой!" Цяпер мінчанін падарожнічае па рэгіёне

ВІЛЕЙКА, МАЛАДЗЕЧНА, АШМЯНЫ

Мінчанін **Ігар Някрасаў** захапіўся велапаходамі тры гады таму, з гэтага часу мужчына дакладна вызначыў для сябе: "Пакуль не аб'еду родную краіну, за мяжу ні нагой!"

Адно з першых месцаў, у якое захацеў трапіць падарожнік, былі Гальшаны на Ашмяншчыне.

– Чуў многа легендаў пра гэта месца, у тым ліку пра прывідаў, – тлумачыць Ігар. – Хацелася ўбачыць на ўласныя вочы, ці ёсць там яны. Прачытаў твор **Караткевіча** "Чорны замак Альшанскі", яшчэ больш загарэўся. Аднак быў расчараваны, бо ўбачыў нічым непрыкметныя разваліны, фантазія малявала іншы вобраз.

Летась мужчына складаў маршрут так, каб падарожнічаць па азёрах і рэках краіны. Сёлета ўжо пабываў на Валожыншчыне, Вілейшчыне і Маладзечаншчыне. За лета плануе ахапіць віцебскі і гродзенскі накірункі.

За лета атрымліваецца праехаць каля 1000 кіламетраў. У некаторыя раёны даязджае на электрычках, затым на ровары. Сёлета ў пачатку сезона Ігар праехаў больш за 310 кіламетраў.

– Акрамя прыгожай беларускай прыроды, краявідаў, якія бачу, вельмі падабаюцца людзі, што жывуць у невялікіх гарадах, вёсачках, дзеліцца ўражаннямі падарожнік. – У адрозненне ад мінчан яны вельмі адкрытыя, гатовыя прыйсці на дапамогу. Зайдзі ў любы дом – дадуць вады напіцца, зарадзіць тэлефон.

### Шукае цікавыя месцы праз сацсеткі

Перш чым паехаць у пэўнае месца, падарожнік пакідае заклік у сацсетках жыхарам пэўнага рэгіёна, якія б месцы яны параілі наведаць. Хаця б адзін чалавек, ды адгукаецца.

У дарогу Ігар бярэ мінімум рэчаў: пакрывала, дыванок, палатку, газавую гарэлку, аптэчку, ваду, непрамакальныя запалкі, мыйныя сродкі і мінімальны набор адзення. Ежу мужчына купляе падчас паездкі альбо рыбачыць, а затым гатуе юшку.

– Пры гэтым усе прыстасаванні я вязу на багажніку, прымацаваным да ровара, так лягчэй, – тлумачыць мінчанін. – Калі ўсе рэчы везці ў рукзаку, то вельмі вялікая нагрузка на спіну, тады падарожжа не прыносіць задавальненне ад цяжару. Адзіны мінус таго, што вязеш рэчы ў багажніку, цяжка паднімацца ўгору.

У аддаленыя месцы мужчына ездзіць адзін, калі ў раёны не вельмі далёкія, можа ўзяць сяброў.

– Аднойчы ўзяў з сабой дзяўчыну, – расказвае Ігар. – Аднак ні ёй, ні мне гэта падарожжа не спадабалася. Яна цяжка пераносіць укусы насякомых, таму скардзілася на гэта, ды і роварны адпачынак гэта не для яе. Мы вырашылі, што летнія выхадныя – гэта мой час, таму магу бавіць яго ў паходах, ніякіх крыўдаў не будзе. А восенню і зімой можам адпачываць разам.

У вольны ад падарожжаў час мужчына піша даведнік па Беларусі.

– Спачатку планаваў выдаваць кнігай, каб іншым велападарожнікам было прасцей ездзіць у цікавыя куточкі нашай краіны, – расказвае Ігар. – Аднак пасля вырашыў, што гэта будзе кніга для маіх нашчадкаў, каб яны не былі цюфякамі, якія ўвесь вольны час праводзяць на канапах і каля камп'ютараў, а вялі актыўны лад жыцця.

Як плануе мінчанін, яму спатрэбіцца яшчэ паўтара года, каб вывучыць сваю краіну, а там можна і за мяжу збірацца.

**Галіна СУДНІКОВІЧ.**

# Сяргей Лавор: на галодны страўнік гуляць не магу

МАЛАДЗЕЧНА

**Вось хто-хто, а Сяргей Лавор дакладна можа прэтэндаваць на званне самага яркага ва ўсіх сэнсах гульца каманды "Маладзечна-ДЮСШ-4".**






№37 каманды "Маладзечна-ДЮСШ-4" Сяргей Лавор: "У футболе трэба быць нахабным".

Ну хто не ведае гэтага "рыжыка"? Малады, эмацыйны, дзёрзкі, амбіцыйны, нахабны і азартны.

– А ў футболе, кажа Сяргей, толькі такім і трэба быць.

Сяргею цяпер 23 гады. Ён прыйшоў у рэдакцыю раніцай, пасля апошняга экзамену.

Вучыцца Сяргей у БНТУ, будзе інжынерам-кантралёрам.

– Засталося год адвучыцца. Але па спецыяльнасці працаваць не буду, мару жыццё звязаць з футболам. З міні-футболам.

Акрамя гульні за ФК "Маладзечна", Сяргей уваходзіць у зборную БНТУ па міні-футболе. І іх каманда станавілася сярэбраным прызёрам чэмпіянату Беларусі.

– Мне міні-футбол падабаецца больш, ён больш тэхнічны. Ёсць прапановы ад камандаў, у якія запрашаюць гуляць. Паглядзім.

Але і да футбольнага клуба "Маладзечна" Сяргей не ставіцца як да хобі.

– Ну якое ж гэта хобі, гэта частка жыцця ўжо 13 год.

Аднак магло атрымацца, што мы б з вамі не ведалі Лавора-футбаліста, бо да 10 год Сяргей усур'ёз займаўся танцамі.

– Так, было і такое, – усміхаецца Сяргей. – Танцаваў і народныя, і бальныя танцы. Не ведаю, так атрымалася, зразумеў, што гэта не маё. Цяпер сябе ў ансамблі не бачу. Я выбраў калектыўны футбалістаў.

Акрамя танцаў, падчас вучобы ў маладзечанскай 12 школе, Сяргей займаўся ў тэатральным гуртку, гуляў у КВЗ.

**Артыстычныя навыкі Сяргею, як аказалася, спатрэбіліся і ў футболе.**

– Прызнаюся, сімуляваў. Гады два таму была гульня, футбаліст з каманды-саперніка мяне крыху зачапіў ці лёгка ўдарыў па твары. Я тады, добра памятаю, сыграў невыносны боль. Прыгожа ўпаў. Суддзя, здаецца, таму футбалісту паказаў чырвоную картку.

Здараліся ў Сяргея і жоўтыя карткі за размовы з суддзямі.

– Ну, яны ж суддзі, яны бачаць гульню крыху інакш. Але я, калі бываю занадта рэзкім, магу першы папрасіць прабачэння. І ў футболе, і ў жыцці.

Цяпер ФК "Маладзечна" рыхтуецца да гульні з "Крумкачамі", якая адбудзецца 8 ліпеня на гарадскім стадыёне.

– Я думаю, мы можам выйграць. Усё ж у гульні шмат чаго залежыць ад удачы, ад настрою. Вось у гульні супраць Жыткавічаў не змаглі забіць у першым тайме, і баявы настрой прапаў. Галоўнае, своечасова забіць свой мяч.

Што датычыцца чэмпіёнства ўвогуле, то Сяргей глядзіць у будучыню з аптымізмам.

– І ў "Рэала" не адразу атрымалася стаць чэмпіёнам. Уявіце, і яны прайграюць.

"Рэал" – гэта любімая каманда Сяргея.

– Вельмі мару трапіць на матч "Рэала" на стадыён Санцьяга Барнабэу. Ну, як мару, хутчэй планую.

Прытым, што Сяргей марыць пра Іспанію, але і ў Беларусі прыгажосцю гарадоў захапляецца.

– Вельмі Гродна падабаецца і Магілёў. Калі выязджаем на матчы, таксама бывае хочацца пасля матча, пакуль ёсць паўгадзінкі часу, прайсціся па невядомым горадзе. Але толькі пасля матча. Перад ім хочацца толькі аднаго – выйграць.

У прыкметы і забабоны Сяргей не верыць, затое абавязкова перад гульнёй з'ядае шакаладку.

– Ну, не магу я гуляць на галодны страўнік! Перад гульнёй абавязкова абедаю ці з'ядаю шакаладку.

Што яшчэ трэба ведаць пра Сяргея Лавора?

Ну, напрыклад, тое, што ён на спрэчку перафарбаваўся ў бландзіна.

Але рудыя вейкі ўсё адно выдаюць з галавой гэтага дзёрзкага, гарэзлівага паўабаронцу №37 ФК "Маладзечна-ДЮСШ-4".

**Наталля ТУР.**



# Крыжаванка ад “Рэгіянальнай газеты”



**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:**
1. Шырокая вядомасць, усеагульнае прызнанне.
2. Гіпатэтычная множнасць усіх магчымых рэальна існуючых паралельных светаў, уключаючы той, у якім жывём мы.
4. У гэтай паўднёваамерыканскай краіне кіравала хунта Пінfamous Пінaчэта, якая праводзіла палітыку жорсткага антыкамунізму.
5. Выцягнутыя, з рагавым пакрыццём, бяззубыя сківіцы ў птушак і некаторых іншых жывёл.
7. Пажаданне спакойнага сну.
8. Страва з мяснога або рыбнага фаршу.
9. Прыстасаванне для натуральнага асвятлення памяшкання і яго вентыляцыі.
11. Этнаграфічны клуб з Маладзечна, які будзе выступаць на фэсце “Гонар продкаў” у Вілейцы 1 ліпеня.
13. Хто ўваходзіў у творчую супольнасць “Магутная кучка” ў 19 стагоддзі ў Расіі?
14. Сталіца Румыніі.
16. Бакавая частка чэрапа ад вуха да лобнай косці.
18. Янка Брыль: “Калі я чытаю добрую кнігу, не папракайце мяне ў гультайстве. Не хочаце прызнаць, што я працую, дык думайце, што я малюся …”.
20. Надзвычай скупы чалавек.
21. Прынцып кіравання, калі ўладай валодаюць старэйшыя.
22. Раман Джойса, вяршыня літаратуры мадэрнізму.
25. Месца гандлю.
27. Прэзідэнтам якой краіны быў Гамаль Абдэль Насер?
28. Які твор напісаў Клод Жозэф Ружэ дэ Ліль у 1792 годзе?
30. У дарэвалюцыйнай Расіі – невялікі пітны дом, дзе прадаваліся і распіваліся спіртныя напоі.
31. Пісьмовае або вуснае пагадненне.
33. Раён нашага рэгіёна, дзе сёлета 32 школьнікі атрымалі залатыя медалі.
36. Знакаміты дослед Томаса Юнга, падчас якога фатоны прапускаюцца праз дзве шчыліны, паказаў дзіўныя вынікі, якія сучасная фізіка не можа патлумачыць. Прырода нібы смяецца з нас, таму што калі мы глядзім, як фатон праходзіць праз шчыліны, ён паводзіць сябе як часціца, а калі не глядзім – як … Гэты эксперымент выкарыстоўваюць некаторыя навукоўцы як доказ таго, што існуючы Сусвет – гэта віртуальная рэальнасць.
37. У старажытнагрэчаскай міфалогіі істота з галавой льва, тулавам казы і хвастом дракона.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:**
3. Будынак для часовага пражывання.
6. Драпежная прэснаводная прамысловая рыба з доўгім выцягнутым тулавам, вялікай сплюснутай галавой.
7. Парушэнне плацежных абавязкаў перад крэдыторам.
10. Межы абрысаў прадмета.
11. Травяністая прыгожая расліна, якая пахуча цвіце.
12. Найвышэйшая службовая асоба рымскай рэспублікі.
15. Амерыканскі прэзідэнт, які падаў у адстаўку з-за Уотэрнейцкага скандалу.
17. Амплуа актрысы, якая іграе хлопчыкаў.
19. Колер, які атрымліваецца пры змешванні чорнага і белага, колер попелу.
21. Балота ў Мядзельскім раёне, месцанараджэнне торфу, пясчана-гравійнага матэрыялу, будаўнічага пяску.
23. Зборную па футболе гэтай краіны называюць “Скуадра Адзкрра”, што перакладаецца як “блакітная эскадра”.
24. Невялікі рэстаран.
26. Востры бераг, край, рабро.
29. Упрыгожванне, якое надзяваецца на шыю.
30. Ледзь чутная гутарка, пры якой гукі вымаўляюцца без удзелу галасавых звязак.
31. Пісьменнік Эдгар Алан По вядомы і як аўтар містычных апавяданняў, і як пачынальнік гэтага жанру літаратуры.
32. Што скарачаецца падчас праходжання папуляцыяй перыяду, калі крытычна змяншаецца колькасць, а пасля адбываецца аднаўленне. З’ява мае назву “эфект бутэлечнага горлачка”.
34. Мастак, які напісаў серыю карцін з выявай Руанскага сабора ў розны час сутак.
35. Прозвішча спявачкі з Вілейскага раёна, якая атрымала Гран-пры на сёлетнім фестывалі “Адна зямля”.
38. Краіна, якая валодае вострвам Грэнландыя.

## АДКАЗЫ НА КРЫЖАВАНКУ З №25

**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:** 3. Латыфундыя 4. Братавая 5. Вінаваты 7. Бонна 10. Блеф 13. Дотык 16. Акселерат 17. Запечак 18. Вакса 19. Ладам 20. Вітка 23. Алігарх 27. Барыкада 29. Верас 32. Інжынер 33. Аловак 35. Хмары 36. Кананада 38. Ланцэт 39. Аорта

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:** 1. Ліштва 2. Аліменты 6. Джын 8. Яблык 9. Захады 11. Збожжа 12. Копанка 14. Анфілада 15. Какос 21. Пегас 22. Гільза 24. Свір 25. Камінар 26. Дужы 28. Тэатр 30. Білінгвізм 31. Задарам 34. Брус 37. Рознасць 38. Луста 39. Аплот 40. Каніфоль

## ГАРАСКОП 30 ЧЭРВЕНЯ – 6 ЛІПЕНЯ



**АВЕН.** Паспрабуйце ўвасобіць у жыццё старыя мары, тыя, што здаваліся немагчымымі. Вы цяпер не ладзіце з сабой, самакрытыка, часта зусім неканструктыўная, забірае шмат душэўных сіл. Пазбягайце непатрэбнай рызыкі, беражыце сябе, і ўплыў негатыўных тэндэнцый не прынясе вам шкоды.



**ЦЯЛЕЦ.** Вас наведае фенаменальная колькасць каштоўных думак і геніяльных ідэй. Некаторыя запішыце – мо спатрэбяцца. Увогуле ўвесь год – гэта час грандыёзных ідэй для простага і паўсядзённага шчасця. Вам толькі трэба добра ўсвядоміць правіла трох Н – няма нічога немагчымага.



**БЛІЗНЯТЫ.** Не дазваляйце свайму меланхалічнаму настрою валодаць вамі. Лепш займіцеся арганізацыяй вольнага часу сваіх блізкіх. Паклапаціцеся аб іх камфорце і эмацыйным стане.



**РАК.** Шчырасць здольная тварыць цуды. Яна – чарадзейны ключ да людскіх сэрцаў і душ.



**ЛЕЎ.** Вас больш за ўсё будуць займаць прафесійная дзейнасць і новыя ідэі. Ці варта накіроўваць усе сілы толькі на работу, вырашаць вам. Але не пакідайце без увагі і іншыя жыццёвыя аспекты.



**ДЗЕВА.** Не стварайце вобраз іншага чалавека з мэтай уразіць некага, бо гэта сыграе з вамі злы жарт. Людзі бачаць вас сапраўднага праз вобраз, і гэта іх адштурхоўвае. Калі жадаеце дабіцца нечага ад свайго каханага, шукайце абходныя шляхі. Настойлівасць тут не дапаможа.



**ШАЛІ.** І за наш настрой, і за стан душы, і за змест нашых думак адказваем толькі мы самі. Няма вакол вінаватых. Усё самі! Вучыцца быць шчаслівымі нам даводзіцца ў свядомым узросце, калі так складана даюцца любыя навукі.



**СКАРПІЁН.** Не звяртайце ўвагу на некаторыя дзівацтвы ў паводзінах вашых знаёмых. Вы таксама не заўсёды ўсё робіце лагічна. Трэба прымаць людзей такімі, якія яны ёсць. І памылкі, якія людзі лічаць памылкамі, часта зусім такімі і не з’яўляюцца.



**СТРАЛЕЦ.** Ваш добры настрой станоўча паўплывае на работу і ўсе справы. Вы, акрамя маральнага задавальнення, атрымаеце яшчэ і прыбытак. З’явіцца чалавек, які так даўно чакаў з вамі сустрэчы. Пагаджайцеся, новае знаёмства прынясе толькі радасць.



**КАЗЯРОГ.** Захоўвайце правілы бяспекі – зоркі вас абараняюць, але гэта не азначае, што трэба беспадстаўна рызыкаваць сабой і выпрабоўваць трываласць гэтай абароны. Вядзіце здаровы лад жыцця. Будзьце цярплівыя і чэсныя ў адносінах да сябе і навакольных, і ўдача не прымусіць сябе чакаць.



**ВАДАЛЕЙ.** Вас чакаюць сустрэчы, размовы з прыемнымі людзьмі. Будзе магчымасць наладзіць адносіны з тымі, з кім вы ў апошні час пасварыліся, урэгуляваць даўнія канфлікты. А галоўная задача выхадных дзён заключаецца ў тым, каб добра выспацца.



**РЫБЫ.** Пара заняцца абнаўленнем іміджу, прывядзеннем сябе ў парадак. Знешнасць тут не менш важная, чым вашы дзелавыя якасці. На выхадныя дазвольце сабе маленькія слабасці.

**Марыя УРБАНОВІЧ.**

## СУДОКУ

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | 4 | | | 3 | | | 1 | |
| | | 3 | | | | 9 | | 4 |
| | 5 | 8 | | | 4 | | | 2 |
| 4 | | | 8 | 2 | | | | |
| | | 6 | | | 5 | | | |
| | | | | 7 | 6 | | | 3 |
| 9 | | | 1 | | | 7 | 3 | |
| 3 | | 5 | | | | 2 | | |
| | 1 | | | 8 | | | 5 | |

**Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3х3) лічба ад 1 да 9 сустракалася толькі адзін раз.**



ISSN 1991-7155

# Рэгіянальная газета. Rh.by

тэлетыдзень

НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2015

● НАДВОР'Е

**1 ліпеня, субота**

| | Пятніца | | Субота | | Нядзеля | | Панядзелак | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мінск | +20 / +25 | | +17 / +24 | | +16 / +17 | | +14 / +18 | |
| | 732 | ↗ 4 | 735 | ↗ 4 | 733 | → 4 | 738 | ↗ 1 |
| Вільня | +20 / +24 | | +16 / +23 | | +15 / +17 | | +13 / +20 | |
| | 738 | ↗ 7 | 741 | ↗ 8 | 741 | → 5 | 746 | → 3 |

Тэмпература паветра | Воблачнасць ападкі | Ціск (мм рт. сл.) | Хуткасць ветра м/с | Усход, захад па Маладзечне

Усход 4.43
Захад 21.49
Даўжыня дня 17.06

Усход 13.46
Захад 1.10
Квадра 1




● ЭКСТРЭМУМЫ НАДВОР'Я

ВІЛЕЙКА

Мінімальная тэмпература +5,6 °С у 1956 годзе
Максімальная тэмпература +30 °С у 2012 годзе
Максімальная колькасць ападкаў 16,8 мм у 1959 годзе
Паводле meteoinfo.by

## Чытайце праз тыдзень:

● **Чаму немца Герхарда Крамера пазнаюць на валожынскіх вуліцах і чаму мясцовы цэнтр развіцця дзяцей называюць "дзіцячым садком Крамера".**



## Маладзечанцы могуць за фотаздымкі з кнігамі атрымаць каштоўныя прызы

МАЛАДЗЕЧНА

Ад 15 чэрвеня да 15 верасня цэнтральная раённая бібліятэка імя Максіма Багдановіча праводзіць фотакрос "Горад чытае!".

Ахвотным прапануюць паўдзельнічаць у творчым спаборніцтве ў наступных намінацыях:
1. "Рэтрафота".
2. "Літаратурны след на вуліцах горада".
3. "Бібліятэка, кніга, чытач".
4. "Я і кніга ў аб'ектыве".

Для таго, каб удзельнічаць, неабходна прынесці фотаздымкі фарматам не менш за 10x15 на абанемент цэнтральнай раённай бібліятэкі імя Максіма Багдановіча на адрас: **Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 121.**

Лепшыя кадры трапяць на выставу, а пераможцы атрымаюць каштоўныя прызы.

**Паводле інфармацыі цэнтральнай раённай бібліятэкі імя Максіма Багдановіча.**



## Новыя банкаўскія рэквізіты "РГ"

**Ад 4.07.2017 года змяняецца частка банкаўскіх рэквізітаў ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета".**

Нашы новыя рэквізіты будуць наступныя.
Разліковы рахунак (IBAN): **BY06BELB30121640300040226000**
Банкаўскі ідэнтыфікацыйны код (BIC SWIFT): **BELBBY2X**

Ранейшым застаецца банк ААТ "БелВЭБ", аддзяленне №670 у Маладзечне.

Наш УНП 60028844, АКПА 06082329.

Падстава змяненняў: Пастанова Праўлення Нацыянальнага банка Рэспублікі Беларусь ад 27.07.2015 №440 у сувязі з пераходам на міжнародную структуру нумара рахунка (IBAN) і банкаўскага ідэнтыфікацыйнага кода (BIC SWIFT).

Просім нашых партнёраў улічваць гэта ва ўзаемных стасунках, а таксама паведаміць нам пра свае новыя рэквізіты, калі гэтага вы яшчэ не зрабілі.

Зрабіць гэта вы можаце па электроннай пошце **reklama@rh.by, факсе 8-0176-537804** або даслаўшы ліст на адрас: **222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 143, офіс 518.**

**ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета".**

● ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ Ў МАЛАДЗЕЧНЕ

## Што б вы папрасілі ў залатой рыбкі?



**Вольга Смаль, у дэкрэтным адпачынку :**
– Як любая мама, папрасіла б здароўя свайму дзіцяці. У мяне маленькі сын. Хацелася б, каб ён не так часта хварэў.



**Алена Урбанская, прадавец-кансультант:**
– У залатой рыбкі звычайна просяць шчасця. Хутка мяне і маю дачку чакае шмат перамен: мяняю працу, месца жыхарства. Хацелася б папрасіць, каб на новым месцы ў нас усё атрымалася і з працай, і з жыллём, і са школай. Ну, і шчасця, канешне.



**Аксана Шнуркевіч, індывідуальны прадпрымальнік:**
– Шмат чаго папрасіла б. Перш за ўсё, здароўя. Яшчэ добрай работы, стабільных даходаў. Калі яны будуць, то і новыя магчымасці з'явяцца. Напрыклад, можна будзе шмат падарожнічаць.



**Антон Рагуновіч, навучэнец:**
– Больш грошай. І каб усе людзі былі здаровыя і шчаслівыя.



**Ганна Лапшэвіч, настаўніца:**
– Па-першае, здароўя. А другое жаданне – каб мая дачка паступіла ў сталічную ВНУ, якую абрала. Сёння мы прыехалі ў Маладзечна з Астраўца. Чакаю дачку, якая здае тэставанне. А рыбак у вашым вадаёме і парку і сапраўды шмат. Можна было б з вудай стаяць.



**Вольга Корсак, выкладчыца музыкі:**
– Нічога б не прасіла. У жыцці трэба разлічваць на сябе. У мяне халява ніколі не праходзіла, усяго дабівалася самастойна. Хаця калі б нешта добрае нечакана звалілася на маю галаву, не адмовілася б, вядома.



**Мікалай Ахрамовіч, вучань:**
– Папрасіў бы, каб тата купіў мне самы круты камп'ютар. Хаця пра гэта лепш тату добра папрасіць, чым залатую рыбку.

**Падрыхтавала Аксана ЯРАШОНАК.**

Рэгіянальная газета. Rh.by
Аб'ём 6 друкарскіх аркушаў фармату А2.
Тыраж 5000 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска).
№26 (1157) 30.06.2017. У розніцу – цана свабодная.
Друкарня УП "Плутас-Маркет", 220137, г. Мінск, вул. Халмагорская, 59-а.
Ліцэнзія ЛП №02330/190 ад 30.04.2004 №93.
Зак. 606. Падпісана ў друк у 9.00 29.06.2017.
Галоўны рэдактар Аляксандр Барысавіч МАНЦЭВІЧ.

Заснавальнікі: Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч.
Рэдакцыя: **222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 143, оф. 518.**
Тэл.: **(80176) 53-78-04** (рэклама, факс), **53-78-05** (дырэкцыя, загадчык аддзела інфармацыі), **53-78-06** (журналісты), **(8029) 573-28-47, 676-84-20.** E-mail: reklama@rh.by, regionnews@rh.by, http://rh.by
Разліковы рахунак №3012164030004 у ААТ "Банк БелВЭБ" аддзяленне ў Маладзечне, код 226, атрымальнік ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета", УНН 600288444, АКПА 06082329.
Пасведчанне №731 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь.